# БОЛЬШЭВІЦКІ ДРУК

## ГАЛОЎНАЕ Ў НУМАРЫ:




КАСТРЫЧНІК 1934 г. 19

журнал ЦК КП(б)Б

Выдавецтва ЦК КП(б)Б газ. „Звязда“

# Змест




Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# Большэвіцкі друк

КАСТРЫЧНІК № 19

ЖУРНАЛ ЦК КП(б)Б

Выходзіць 2 разы ў месяц

*Адказны рэдактар А. ДЖЭЛЮК*

Адрас рэдакцыі івыдавецтва МЕНСК, Савецкая, 63 тэл.—22412

## Нястомна змагацца

## *за кожны працант калектывізацыі*

Сельская гаспадарка БССР калектывізавана на 55,3 проц. За першае паўгоддзе працант калектывізацыі павялічыўся толькі на 4,3.

Аб чым гавораць гэтыя лічбы?

У нашых руках — найшырэйшыя магчымасці для далейшай калектывізацыі. У справе арганізацыйна-гаспадарчага і палітычнага ўмацавання калгасаў, у барацьбе за калгасную заможнасць зроблен вялікі крок наперад. Ураджайнасць калгасных палёў павысілася на 50 проц.

Значна лепш і хутчэй, чым за ўсе папярэднія гады, праведзены веснавая сяўба, уборка ўраджаю і сяўба азімых. На некалькі месяцаў раней, чым летась, выканэн дзяржаўны план хлебапаставак. У гэтым — буйнейшае заваяванне ў нашай барацьбе за большэвіцкія калгасы, за калгасную заможнасць.

У нас ёсць усе ўмовы для далейшага магутнага росту калектывізацыі.

Але многія раённыя арганізацыі і газеты не скарыстоўваюць гэтых магчымасцей. Няма яшчэ сапраўднай большэвіцкай барацьбы за кожны працант калектывізацыі.

Стаўка на самацёк, ігнараванне працоўных аднаасобнікаў — заўтрашніх калгаснікаў — вось у чым прычына слабага разгортвання далейшай калектывізацыі.

Нямала раённых арганізацый, раённых і палітаддзельскіх газет сталі на пазіцыю так званай «нейтральнасці». Людзі заяўляюць, што ім трэба праводзіць бягучыя гаспадарча - палітычныя кампаніі, трэба змагацца за хутчэйшае выкананне дзяржаўных паставак, а новы калгасны прыліў пойдзе сам сабой. Адсюль — самаўхіленне ад работы сярод працоўных аднаасобнікаў, прамая падзацэнка далейшай калектывізацыі.

Ясней яснага, што такія настроі не маюць нічога агульнага з указаннямі нашай партыі аб тым, што трэба настойліва і штодзенна змагацца за кожны працант калектывізацыі, што новы калгасны прыліў трэба арганізаваць.

Барацьба за большэвіцкія калгасы і барацьба за новы калгасны прыліў—адна неразрыўная справа. Задача заключаецца ў тым, каб па-большэвіцку спалучыць выкананне бягучых гаспадарча - палітычных кампаній з арганізацыяй новага калгаснага прыліву.

Так павінны ставіць пытанне нашы газеты.

Газета павінна быць арганізатарам, нястомным байцом за кожны працант калектывізацыі. Яна павінна паказваць работу, жыццё, быт перадавых калгасаў, пераконваць працоўнага аднаасобніка фактамі росту заможнасці, росту культуры ў калгасе, знаёміць працоўнага аднаасобніка з тым, што дае сумленная калгасная праца. Яна павінна дапамагчы працоўнаму аднаасобніку ўступіць у калгас.

У гэтых адносінах вельмі характэрны дзве палітаддзельскія газеты **«За большэвіцкія калгасы»** (Рагачоўская МТС) і **«Палітаддзельскі змагар»** («Ушацкая МТС).




Газета палітаддзела Рагачоўскай МТС з нумара ў нумар паказвае, як ідзе новы калгасны прыліў. На яе старонках выступаюць калгаснікі, якія расказваюць, што ім дае калгас, знаёмяць сваіх суседзяў — працоўных аднаасобнікаў з усімі жыццёвымі пытаннямі калгаснай вытворчасці, фактамі, лічбамі, справай, асабістым прыкладам агітуючы за калгасны прыліў. Газета рашуча выкрывае кулацкае ахвосце, якое імкнецца падарваць калгасную вытворчасць, недапусціць аднаасобніка ў калгас.

Па рабоце і вынікі. Процант калектывізацыі ў зоне дзейнасці Рагачоўскай МТС павялічыўся ў два разы.

Зусім іншае трэба сказаць аб газеце «Палітаддзельскі змагар». Матэрыялы аб рабоце па далейшай калектывізацыі — самыя рэдкія госці ў газеце. Гэтай справай рэдакцыя па сутнасці зусім не займаецца. Яна не ідзе далей рэгістрацыі фактаў. Час-ад-часу (і то зусім рэдка, адзін — два разы ў месяц) газета змяшчае невялікія заметкі, у якіх гаворыцца, колькі аднаасобных гаспадарак уступіла ў той ці іншы калгас. Рэдакцыя не паказвае, чаму ў радзе калгасаў зоны дзейнасці МТС зусім няма новага прыліву, яна не бярэ пад асобны нагляд адстаючыя калгасы, не праводзіць ніякай масава - арганізатарскай работы.

Так працаваць нельга. Нельга сядзець, склаўшы рукі, і чакаць, пакуль не паступяць весткі аб колькасці аднаасобных гаспадарак, уступіўшых у калгасы. Задача — у штодзённай масава-арганізатарскай рабоце.

У раёнах з параўнаўча высокім процантам калектывізацыі (75—80) ёсць паасобныя сельсоветы, дзе калектывізавана зусім нязначная колькасць гаспадарак.

А газеты гэтых раёнаў супакойваюцца на сярэдніх лічбах, не звараچаюць увагі на адстаючыя сельсоветы, не выяўляюць прычын, чаму ў тых ці іншых калгасах зусім няма новага прыліву. З такой практыкай сярэдніх лічбаў трэба пакончыць і гэта — задача ўсяго друку.

Мы маем нямала фактаў, калі калгасы зачыняюць дзверы перад аднаасобнікам, не знаёмяць яго са сваёй работай, калі заявы аднаасобнікаў не разглядаюцца, ляжаць без адказу па некалькі месяцаў.

Новым калгасам часта не аказваюць своечасовай дапамогі, марудзяць з іх арганізацыйным афармленнем.

Раённы і палітаддзельскі друк павінен дабівацца, каб кожная заява працоўнага аднаасобніка была своечасова разгледжана, каб новыя калгасы былі хутка аформлены і атрымалі належную дапамогу.

Трэба, аднак, не забываць, што ў калгасы імкнуцца прабрацца кулацкія класава-варожыя элементы, каб падарваць калгасную вытворчасць.

Акружаючы клопатамі сумленных аднаасобнікаў, якія сапраўды хочуць звязаць свой лёс з лёсам калгасаў, уцягваючы гэтых аднаасобнікаў у калгасы, дапамагаючы ім стаць на калгасны шлях, трэба рашуча выкрываць кулацкіх прыхвасняў.

У сувязі з вытворчым паходам імя з'езда советаў і падрыхтоўкай да ўсебеларускага з'езда рабселькораў у БССР шырыцца новы калгасны прыліў. У радзе раёнаў арганізуюцца новыя калгасы імя з'езда советаў і з'езда рабселькораў.

Друк БССР павінен узначаліць гэты ўздым, узмацніць сваю работу па далейшай калектывізацыі, па-бальшэвіцку змагацца за новы калгасны прыліў.

У Бабруйскім раёне ёсць калгас «На варце». У калгасе выходзіць насценгазета. У гэтай невялікай калгаснай газеты шмат чаму можа павучыцца ўвесь друк БССР. Рэдкалегія газеты «На варце» і яе селькоры — сапраўдныя байцы за новы калгасны прыліў. Селькоры асабіста гутарылі з аднаасобнікамі, пераконвалі іх у перавазе калгаснага ладу, расказвалі ім, што дае калгас, калі калгаснік сумленна адносіцца да працы. За кароткі час, дзякуючы энергічнай арганізатарскай рабоце газеты і яе селькораў, амаль уся вёска, дзе знаходзіцца калгас «На варце», стала калгаснай. У калгас уступіла 120 новых гаспадарак.

За апошні час у Жыткавіцкім раёне, дзе работа па далейшай калектывізацыі была ў заняпадзе, узмацніўся калгасны прыліў. І ў гэтым — вялікая заслуга нізавога калгаснага друку і селькораў-ударнікаў. Яны сталі сапраўднымі арганізатарамі новага прыліву.

Тав. Стэльмах, селькор-ударнік, асабіста ўцягнуў 25 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. 46 гаспадарак уступілі ў калгас «Комунар Беларусі» ў выніку масава- растлумачальнай арганізатарскай работы селькораў-ударнікаў калга-

Селькоры-ўдарнікі за некалькі дзён сваёй работы толькі па аднаму сельсовету (Ляхавіцкі сельсовет, Жыткавіцкага раёна) уцягнулі ў калгас звыш 100 аднаасобных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

Вось якіх вынікаў можна дасягнуць, калі сур'ёзна, па-дзелавому ўзяцца за справу, калі газета сапраўды арганізуе селькораў-ударнікаў і, апіраючыся на іх, будзе змагацца за кожны процант калектывізацыі. Імена так трэба рыхтавацца да ўсесаюзнага і ўсебеларускага з'ездаў советаў і ўсебеларускага з'езда рабселькораў.

Справа гонару кожнай газеты, усіх рабселькораў — нястомна рушыць наперад калектывізацыю.

## АБ ПАДРЫХТОЎЦЫ ДА УСЕБЕЛАРУСКАГА З'ЕЗДА РАБСЕЛЬКОРАЎ ПА ПУХАВІЦКАМУ, ЛЕПЕЛЬСКАМУ І ПЕТРЫКАЎСКАМУ РАЁНАХ

### ПАСТАНОВА БЮРО ЦК КП(б)Б

Адзначыць, што пастанова Бюро ЦК КП(б)Б па пытанню падрыхтоўчай работы да III усебеларускага з'езда рабселькораў па Пухавіцкаму, Лепельскаму і Петрыкоўскаму раёнах выконваецца нездавальняюча.

Райкомы КП(б)Б і рэдактары газет пералічаных раёнаў недаацанілі палітычнага значэння падрыхтоўкі да з'езда рабселькораў і не забяспечылі выканання ўказанняў ЦК КП(б)Б аб тым, што справа падрыхтоўкі да рабселькораўскага з'езда павінна быць справай усёй партарганізацыі.

Рэдактар пухавіцкай райгазеты тав. Панкратаў не арганізаваў сістэматычнага і дзелавога асвятлення на старонках газеты ходу падрыхтоўчай работы да з'езда і не арганізаваў разам з райкомам КП(б)Б масавага агляду нізавога друку. Аналагічнае становішча мае месца ў Лепельскім і Петрыкаўскім раёнах.

Выходзячы з гэтага, ЦК КП(б)Б пастанаўляе:

1. За бяздзейнасць у справе падрыхтоўкі да ўсебеларускага з'езда рабселькораў рэдактару пухавіцкай райгазеты т. Панкратаву абвясціць вымову, а сакратару РК КП(б)Б указаць.

2. Паказаць сакратарам Лепельскага і Петрыкоўскага райкомаў КП(б)Б і рэдактарам газет тт. Бароўскаму і Дамброўскаму на неабходнасць прыняцця з іх боку неадкладных і дзельных практычных мерапрыемстваў па рэалізацыі пастановы Бюро ЦК КП(б)Б аб падрыхтоўцы да з'езда рабселькораў.

3. Прапанаваць Пухавіцкаму, Лепельскаму і Петрыкаўскаму райкомам КП(б)Б накіраваць у сельсоветы і калгасы актыў комуністаў для ўзмацнення на месцах падрыхтоўчай работы да з'езда рабселькораў. Падрыхтоўку да з'езда ўвязаць з барацьбой за паспяховае завяршэнне 1934 сельскагаспадарчага года.

4. Прапанаваць усім РК КП(б)Б абгаварыць становішча падрыхтоўкі да ўсебеларускага з'езда рабселькораў на райкомах і прыняць меры да актывізацыі работы, мабілізуючы рабселькораў і нізавы друк на барацьбу за лепшае выкананне промфінплана і ўсіх сельскагаспадарчых кампаній.

# Дошка Гонару

**ПА ПРАДСТАЎЛЕННЮ ПАЛІТСЕКТАРА МТС НАРКОМЗЕМА БССР ЗАНОСІМ НА ЎСЕБЕЛАРУСКУЮ ДОШКУ ГОНАРУ:**

**„ПАЛІТАДДЗЕЛЬСКУЮ ПРАЎДУ“** — газету палітаддзела АСВЕЙСКАЙ МТС. Адказны рэдактар МАЛІКІН Г.

За кароткі час (газета выходзіць з 26-га ліпеня) «Палітаддзельская праўда» стала сапраўды БАЯВЫМ ОРГАНАМ ПАЛІТАДДЗЕЛА. Вялікую работу разгарнула газета па падрыхтоўцы да ўсебеларускага з'езда рабселькораў. Цяпер насценгазеты выходзяць амаль ва ўсіх 46 КАЛГАСАХ, абслугоўваемых МТС, да стварэння палітаддзельскай газеты насценгазеты выходзілі толькі ў некалькіх калгасах. «Палітаддзельская праўда» праводзіць конкурс насценгазет на лепшую работу па падрыхтоўцы да з'езда рабселькораў.

Па-баявому змагаюцца «Палітаддзельская праўда», калгасныя насценгазеты і рабселькоры Асвейшчыны за выкананне плана ільнозагатовак. 20 верасня рабселькоры арганізавалі чырвоны абоз з ільном, якім здана дзяржаве 100 тон трасты.

Нядаўна «Палітаддзельская праўда» правяла рэйд па праверцы падрыхтаванасці калгасных ферм да зімы. Селькоры праверылі падрыхтаванасць да зімы ўсіх калгасаў зоны МТС.

**ЗА БОЛЬШЭВІЦКІЯ КАЛГАСЫ** — газету палітаддзела ДАМАНАВІЦКАЙ МТС, Мазырскага раёна. Адказны рэдактар т. ДУБРАВІЦКІ.

Газета па-аператыўнаму ўключылася ў жывёлагадоўчы паход імя VII усесаюзнага з'езда советаў, вядзе вялікую работу па арганізацыі новага калгаснага прыліву.

Газета разгарнула спаборніцтва рабселькораў і нізавых газет на лепшую падрыхтоўку да 3-га ўсебеларускага з'езда рабселькораў, правяла злёт селькораў і рэдактароў насценгазет, заслухала справаздачы рэдактароў насценгазет калгасаў «Культура», «Сеяцель», «Новыя Дамановічы», «Окцябр», «Новыя Ліцвінкавічы», сістэматычна друкуе аглядны нізавога друку.

Нядаўна газета выдала і разаслала рэдкалегіям макет насценгазеты на калгаснай ферме «Забяспечым цёплую і сытую зімоўку жывёле».

***ЗА БОЛЬШЭВІЦКІ УРАДЖАЙ*** — насценгазету калгаса «ЧЫРВОНЫЯ ЯРОМКАВІЧЫ», зоны дзейнасці Аршанскай МТС. Рэдактар насценгазеты тав. К. ФРАЛОЎ.

Газета аператыўна змагалася за датэрміновае выкананне калгасам усіх яго абавязкаў перад дзяржавай, дапамагала калгасу ў хутчэйшым завяршэнні сельскагаспадарчых работ. Пры актыўным удзеле насценгазеты і згуртаваных вакол яе селькораў калгас яшчэ 1-га верасня завяршыў ільноздачу, значна перавыканаўшы план.

Умелы паказ насценгазетай вопыта работы перадавой брыгады Фраленкова ўздзейнічаў на адстаючыя брыгады, падцягнуў іх да ўзроўню перадавых. Калгас заняў у сельсовеце перадавое месца. Адна з яго лепшых брыгад трымае пераходны чырвоны сцяг палітаддзела МТС.

Рэдактар насценгазеты Кузьму Фралова, былога чырвонага партызана, калгас рэкамендуе для занясення ў кнігу знатных людзей калгасаў Аршаншчыны.

# Калі правяраецца кожны пункт

Шлях соцыялізма

1 кастрычніка нарада старшынь сельсаветаў і калгасаў **Жлобінскага раёна** прыняла самаабавязацельствы па вытворчаму паходу імя VII з'езда советаў СССР і XI з'езда советаў БССР. У самаабавязацельствах былі вызначаны канкрэтныя тэрміны завяршэння чарговых сельскагаспадарчых работ, выканання загатовак ільну, паставак мяса, малака і т. д.

Каб не астацца балбатунамі, выканаць узятыя абавязацельствы, неабходна ажывіць работу сельсоветаў, уцягнуць у гэту работу ўвесь актыў. Вось чаму старшыні сельсоветаў запісалі ў сваіх абавязацельствах:

**«У нашай рабоце бывае часта так, што працуе адзін старшыня, некалькі членаў сельсовета, але асноўны актыў не ўцягнут у работу. Трэба прама сказаць, што ў пераважнай частцы сельсоветаў секцыі зусім не працуюць.**

**Арганізаваць работу секцый, даць кожнай з іх канкрэтнае заданне, правяраць выкананне гэтага—наш абавязак і мы гэта зробім».**

Праверку выканання гэтых самаабавязацельстваў, паказ работы сельсоветаў, іх секцый, дэпутацкіх груп і павінна была пакласці ў аснову сваёй работы па падрыхтоўцы да перавыбараў советаў жлобінская раённая газета **«Шлях соцыялізма»**.

5-га кастрычніка «Шлях соцыялізма» надрукаваў самаабавязацельствы старшынь сельсоветаў. І пачынаючы ўжо з 7 кастрычніка, газета з нумара ў нумар дае матэрыялы аб падрыхтоўцы да з'ездаў советаў.

Адным з асноўных пунктаў самаабавязацельстваў нарады старшынь сельсоветаў і калгасаў з'ўляецца:

**«Да XVII гадавіны Окцябрскай рэволюцыі кожны сельсовет павінен дабіцца сапраўды масавага прыліву ў калгасы, ператвараючы наш раён у раён суцэльнай калектывізацыі».**

У парадку праверкі выканання гэтага пункта «Шлях соцыялізма» 7 кастрычніка выступае з артыкулам **«Чаму ў Бухарынскім сельсовеце няма прыліву ў калгасы»**.

Класава-варожыя элементы ў сельсовеце вядуць шалёную агітацыю супроць калгасаў. Выдранковы, Аўсянікавы, Жычка, Крышнеў збіраюць аднаасобнікаў, якія падалі заявы аб уступленні ў калгас, угаварваюць іх забраць назад гэтыя заявы, распаўсюджваюць хлуслівыя чуткі пра становішча ў калгасах. А Бухарынскі сельсовет не толькі не прымае ніякіх мер супроць кулацкіх агітатараў, а, наадварот, патурае ім.

**«Сельсовет даў сенажаць кулачцы Аўсянікавай Х. і не ўлічыў у аб'екты абкладання. Крышнёву дадзена 3 га зямлі і яна не абкладзена падаткам, у сакратара сельсовета Аўсянікава 2 га зямлі таксама не абкладзены падаткам...**

**...Ніякай палітмасавай работы сярод аднаасобнікаў ні сельсовет, ні калгасы не праводзяць. Пытанне аб калектывізацыі не абгаварвалася ні на адным сходзе»,**

— выкрывае газета прычыны слабага прыліву ў калгасы сельсовета.

З 10 кастрычніка газета ўвяла пастаянны аддзел: **«Насустрач VII з'езду советаў»**. Калі 10-га ў гэтым аддзеле былі змешчаны толькі паведамленні аб уключэнні ў вытворчы паход, то ўжо 12 кастрычніка паказана, як выконваюцца прынятыя абавязацельствы ў асобных сельсоветах.

**«Выключна сур'ёзная ўвага звернута на арганізацыю прыліву ў калгасы. У час правядзення пленума ўступіла ў калгас 30 гаспадарак. Перадавыя члены сельсовета Новікаў, Быкаў, Свянцэцкі, Міхайлаў, Кавалёў і Гузеняў**

**уступілі ў калгас. Прыліў у калгасы працягваецца і зараз».**

—расказвае на старонках газеты старшыня Ст.-Руднянскага сельсовета тав. **Будніцкі.**

У гэтым-жа нумары газета змяшчае невялікую інфармацыю аб дакладах старшынь выбарчых камісій 5 сельсоветаў на пасяджэнні раённай выбарчай камісіі. Адказнейшая работа—складанне спісаў выбаршчыкаў—у гэтых советах не арганізавана. У Невелянскім сельсовеце пачалі складаць спісы выбаршчыкаў па падворных спісах 1926 г. І «Шлях сацыялізма» папярэджвае сельсоветы:

> **«Спісы выбаршчыкаў трэба складаць не габінетным парадкам, а пры шырокім удзеле ўсяго актыва. Ні адзін той, які згодна інструкцыі пазбаўляецца выбарчых правоў, не можа і не павінен папасці ў спісы выбаршчыкаў. А зрабіць гэта можна правільна тады, калі да абгаварэння спісаў выбаршчыкаў будуць прыцягнуты шырокія масы працоўных».**

Газета разумее, што ў падрыхтоўцы да перавыбараў советаў трэба ўлічыць усё да дробязей. Вось чаму яна папярэджвае, што

> **«амаль ні адзін сельсовет не заняўся такім, здавалася-б, дробязным пытаннем, як падрыхтоўка памяшкання, у якім будзе праходзіць сход, не рыхтуюцца лозунгі, насценныя газеты... Трэба браць прыклад з Ст-Руднянскага сельсовета, які ўжо зараз вызначыў памяшканні, забраніраваў адпаведную колькасць газы і т. д.».**

Следам за старшынёй Ст.-Руднянскага сельсовета на старонках газеты выступілі кіраўнік фінансавай секцыі і старшыня Пірэвіцкага сельсовета. Фінансавая секцыя Пірэвіцкага сельсовета працуе нядрэнна. Кожны член секцыі атрымлівае канкрэтныя заданні, арганізавана праверка выканання гэтых заданняў.

> **«Калі які-небудзь з участкаў адставаў, мы адразу-ж накіроўвалі дапамогу і падцягвалі гэты ўчастак да ўзроўню перадавога»**

—расказвае кіраўнік секцыі т. **Каган.** Пры сельсовеце працуе і жывёлагадоўчая секцыя. Тав. **Рубахін**—старшыня сельсовета—расказвае на старонках газеты, як у парадку выканання абавязацельстваў па вытворчаму паходу гэта секцыя дабілася выканання плана сілаcавання на 115 проц., дагаварылася з калгасамі аб тым, каб выканаць план на 150 проц.

**«Выканаць кожны пункт самаабавязацельстваў»**—патрабуе «Шлях соцыялізма», паведамляючы, што ў сувязі з падрыхтоўкай да з'езда советаў у калгасы Лукаўскага сельсовета ўступіла 125 гаспадарак, у калгасы Ст.-Руднянскага сельсовета — 120 гаспадарак, Затонскага—16 гаспадарак, што арганізован новы калгас імя VІІ з'езда советаў. А вось у Чацвярнянскім, Салонскім, Кабанаўскім і інш. сельсоветах прыліў у калгасы зусім нязначны. І газета папярэджвае гэтыя сельсоветы, што

> **«у абавязацельствах пытанне калектывізацыі з'яўляецца адным з асноўных пытанняў»,**

што справаздачна-перавыбарчыя сходы трэба сустрэць поўным выкананнем усіх самаабавязацельстваў па вытворчаму паходу імя VІІ з'езда советаў.

Жлобінская газета правільна зразумела, што адным асвятленнем на старонках газеты ходу падрыхтоўкі да перавыбараў советаў абмежавацца нельга, што трэба ўключыць у барацьбу за паспяховае правядзенне вытворчага паходу нізавы друк і рабселькораў. З гэтай мэтай рэдакцыя «Шляха соцыялізма» на 13-е кастрычніка склікала нараду рэдактароў і членаў рэдкалегій і рабкораў насценгазет прадпрыемстваў горада.

Але ў сваёй рабоце па падрыхтоўцы да перавыбараў советаў газета многае ўпускае. У паведамленнях аб уключэнні ў вытворчы паход больш за ўсё фігуруюць школы, сельсоветы. А вось як калгасы ўключаюцца ў паход, што робіцца ў калгасах па падрыхтоўцы да з'езда советаў—гэтага ў газеце пакуль што няма.

**Глыбокага паказу** работы сельсоветаў і іх секцый газета яшчэ не арганізавала, да паказу работы асобных членаў сельсоветаў, дэпутацкіх груп не прыступала. І ў гэтым асноўны недахоп работы жлобінскай газеты. Гэта рэдакцыя «Шляха соцыялізма» павінна ўлічыць у сваёй барацьбе за большэвіцкую падрыхтоўку да XІ з'езда советаў БССР.

# У тылу пахода




Абвяшчэнне вытворчага паходу імя VII усесаюзнага з'езда советаў і XI з'езда советаў БССР знайшло гарачы водгук у масах рабочых і калгаснікаў. Заводы і фабрыкі БССР падхапілі ініцыятыву перадавых прадпрыемстваў Масквы і ўключыліся ў вытворчы паход. Прыняты канкрэтныя самаабавязацельствы па датэрміноваму выкананню вытворчых праграм і далейшаму паляпшэнню матэрыяльна-бытавых умоў рабочых.

У сувязі з гэтым на фабрычна-заводскі друк ускладаецца асаблівая адказнасць. Газета павінна змагацца за тое, каб кожнае самаабавязацельства было поўнасцю выканана, каб падрыхтаваць дастойную сустрэчу VII усесаюзнаму з'езду советаў і XI з'езду советаў БССР.

Як спраўляюцца з гэтай задачай фабрычна-заводскія газеты БССР?

Перад намі камплект **«Чырвонай вагранкі»** (газета Гомельскага завода «Пролетарый», адказны рэдактар таз. **Плоткін**).

28 верасня на першай старонцы «Чырвоная вагранка» змяшчае лозунг:

> **«Уключыўшыся ў вытворчы паход імя VII з'езда советаў, даб'емся датэрміновага выканання гадавой праграмы».**

І больш—ні слова аб вытворчым паходзе.

Што за паход? Якія задачы стаяць перад ім?—Ні радка аб гэтым.

Праз тыдзень выходзіць наступны нумар газеты. На першай старонцы надрукаваны самаабавязацельствы рабочых завода ў сувязі з уключэннем у вытворчы паход:

> **«Да 25 снежня выканаць план 1934 года і да новага года даць прадукцыі звыш плана на 150.000 руб. Ахапіць тэхвучобай 225 рабочых і здачай тэхэкзамена—175 рабочых».**

У гэтым-жа нумары змяшчаецца перадавы артыкул «Праўды» аб перавыбарах советаў. Аб практычнай рабоце па масаваму вытворчаму паходу—зноў ні слова. А хіба справа заключаецца толькі ў тым, каб надрукаваць прынятыя самаабавязацельствы?

***

**«Чырвоная Дзвіна»** (газета віцебскай ільнопрадзільнай фабрыкі) таксама павярхоўна і лёгкадумна аднеслася да вытворчага паходу. Некалькі красамоўных фактаў.

27 верасня «Чырвоная Дзвіна» змяшчае аншлаг:

> **«Своечасовы рамонт кватэр рабочых—баявая задача паходу імя VII з'езда советаў».**

Але ніякіх матэрыялаў па гэтаму пытанню газета не дае. Змяшчаюцца толькі самаабавязацельствы ў сувязі з вытворчым паходам:

> **«Да 20 снежня выканаць план 1934 года.**
>
> **Вераснёўскі план выканаць на 101 проц.» і т. д., і т. д.**

Бярэм наступны нумар газеты (за 6 кастрычніка). Ніякіх матэрыялаў, прысвечаных паходу, у газеце няма. Са зводкі, надрукаванай у газеце, можна даведацца, што месячны план выканан толькі на 96,7 проц.

І так адзін з першых пунктаў прынятых самаабавязацельстваў не выканан. Рэдактар «Чырвонай Дзвіны» тав. **Шульман** лічыць магчымым замаўчаць гэты факт.

Людзі змясцілі абавязацельствы, упрыгожылі іх гучным аншлагам, а пра іх выкананне, пра канкрэтную справу забылі.

***

**«Металіст»** (газета віцебскага завода **«Чырвоны металіст»**, адказны рэдактар тав. **Гурвіч**) змясціў перадавы артыкул, у якім проста і зразумела растлумачыў задачы вытворчага паходу імя ўсесаюзнага і ўсебеларускага з'ездаў советаў. Газета паказала вопыт работы заводскіх дэпутатаў горсовета. Пачатак зрабіў

тав. Сандлер, які перадаў праз газету вопыт работы па шэфству над чыгуначнай станцыяй Княжыцы.

Тав Сандлер расказвае:

**«Што мы зрабілі канкрэтна? Прывялі ў парадак знадворны і ўнутраны выгляд станцыі, афарбавалі ленінскі куток, правялі радыё, абсталявалі бібліятэку. Зараз мы прыступілі да электрыфікацыі станцыі. На станцыі выпускаецца насценгазета».**

На жаль, далёка не ва ўсіх сваіх нумарах «Металіст» асвятляе пытанні вытворчага паходу. А галоўнае іменна ў тым, каб штодзенна, з нумара ў нумар паказваць, як ідзе вытворчы паход на заводзе, па-хаду выяўляць і выпраўляць недахопы, пашыраць вопыт перадавых цэхаў, брыгад і асобных рабочых.

А «Металіст» толькі ў пачатку даў канкрэтныя і цікавыя матэрыялы, а потым усю справу пусціў на самацёк.

«Чырвоная вагранка», «Чырвоная Дзвіна» і «Металіст» не зразумелі, што справа не ў дэкларацыях, не толькі ў тым, каб змясціць самаабавязацельствы, а ў штодзеннай практычнай рабоце.

З кампанейшчынай, з дэкларацыйнасцю трэба пакончыць, мабілізуючы рабкораў, ударнікаў і ўсіх рабочых на практычнае ажыццяўленне кожнага самаабавязацельства.

# Усё „наогул“ і нічога канкрэтнага

## Калгаснік Кармяншчыны

Як працуюць сельскія советы і іх секцыі, дэпутацкія групы, асобныя члены сельсоветаў у Кармянскім раёне? Як рыхтуецца раён да важнейшай палітычнай кампаніі—выбараў у органы пралетарскай дыктатуры—советы? Адказ на гэта пытанне мы спадзяваліся знайсці на старонках кармянскай раённай газеты.

Дарэмна. **«Калгаснік Кармяншчыны»** ўпарта захоўвае гэта ад працоўных раёна.

Ці ведае рэдакцыя «Калгаснік Кармяншчыны» аб надыходзячых выбарах і з'ездах советаў? Безумоўна ведае. Яшчэ 28 верасня газета перадрукавала перадавы артыкул «Звязды»: «Па-бальшэвіцку правесці справаздачна-перавыбарчую кампанію советаў».

7 кастрычніка газета надрукавала зварот ЦВК СССР аб выбарах у советы. Нарэшце, 12-га кастрычніка яна дала перадавы артыкул «Задачы справаздачна-перавыбарчай кампаніі».

Аднак, для сябе з усіх гэтых дакументаў «Калгаснік Кармяншчыны» ніякіх вывадаў не зрабіў. У час, калі ўся краіна рыхтуецца да выбараў у советы, калі мільёны рабочых і калгаснікаў уключаюцца ў вытворчы паход імя VII з'езда советаў СССР і XI з'езда советаў БССР, у кармянскай газеце нельга знайсці ні радка аб ходзе вытворчага паходу ў раёне, ні аднаго глыбокага паказу работы советаў.

Праўда, 12 кастрычніка газета выступіла з артыкулам «Асобныя сельсоветы справай калектывізацыі не займаюцца». Яна прывяла процант калектывізацыі ў адстаючых Балатнянскім, Літвінаўскім, Ворнаўскім і Валынцаўскім сельсоветах.

**«Масава-растлумачальная работа ў гэтых сельсоветах не ў пашане... Гэтыя сельсоветы зусім скінулі з рахунка аднаасобніка... Хаты-чытальні, якія маюцца пры сельсоветах, на замку... Некаторыя сельсоветы з рук вон дрэнна праводзяць арганізацыйна-масавую работу сярод працоўных аднаасобнікаў. Нярэдка на мясцах слаба вядзецца барацьба з астаткамі разгромленага кулацтва».**

«Некаторыя сельсоветы», «не рэдка на мясцах» і т. д. — вось тон артыкула. Усё «наогул», ні аднаго канкрэтнага факта з работы сельсоветаў. Ці дае гэты артыкул хоць які-небудзь аналіз работы канкрэтных сельсоветаў у галіне калектывізацыі? Ніякага аналіза ён не дае. Але і гэты артыкул з'яўляецца адзіным матэрыялам у кастрычніцкіх нумарах газеты аб рабоце советаў.

Вывад адсюль можа быць толькі адзін: рэдакцыя кармянскай газеты не зразумела вялікіх і адказных задач, якія ўскладзены на наш друк у сувязі з падрыхтоўкай да выбараў у советы.

# Некалькі радкоў дробнага петыту

## Сталінскі заклік

Невель—сусед Гарадка. Суседзі рашылі абмяняцца вопытам сваёй работы. Ініцыятыву праявіла рэдакцыя палітаддзельскай газеты **«Сталінскі заклік»** (Гарадоцкая МТС). Газета расказала на сваіх старонках, як апрацоўваюць лён у калгасе «Прагрэс», Невельскага раёна.

У пятай брыгадзе гэтага калгаса група тав. Якаўлева вытрапвае за дзень 100 кілаграмаў валакна. У групе—шэсць чалавек. Кіраўнік групы т. Якаўлеў вытрапвае за дзень 15—16 кілаграмаў валакна. Па ім раўняюцца іншыя калгаснікі.

Тав. Якаўлеў проста і зразумела расказвае, як яго група і ён сам дабіліся такіх рэкордных паказальнікаў.

Пачын палітаддзельскай газеты—каштоўная справа. Такія матэрыялы вучаць, як лепш апрацаваць лён, перадаюць калгасным масам вопыт Ізотавых сацыялістычнага ільнаводства.

Але адсюль нельга рабіць вывад, што «Сталінскі заклік» добра змагаецца за лён.

Наадварот, з поўным правам можна сказаць, што рэдакцыя ігнаруе лён, недааццэньвае ільнозагатоўкі. Матэрыялы аб калгасе «Прагрэс»—выключэнне. Газета іх толькі надрукавала, забыўшы, што гэтым пытанне яшчэ не вырашаецца, што галоўнае—у штодзеннай арганізатарскай масавай рабоце.

Прагледзім кампдект газеты. У нашым распараджэнні—11 нумароў (з 18 верасня па 17 кастрычніка). З першых дзён апрацоўкі ільну калгасы Гарадоцкай МТС недапушчальна адсталі. Адставанне прадаўжаецца яшчэ і зараз. Тым больш незразумела, чаму «Сталінскі заклік» па сутнасці нават не ўспамінае аб ходзе апрацоўкі і загатовак ільну па калгасах зоны дзейнасці МТС.

18, 21, 23, 25 верасня. Чатыры нумары газеты. І ні слова аб тым, як калгасы выконваюць свае абавязацельствы перад дзяржавай па здачы ільну. Ні слова аб тым, як ідуць пад'ём і апрацоўка ільну, як працуюць ільноапрацоўчыя пункты. За тыдзень газета змясціла толькі дзве маленькія заметкі, кожная па 5-10 радкоў. У першай гаворыцца, што ў брыгадзе № 2 калгаса імя Сталіна за дзень апрацавалі 64 кгр. валакна. У другой гутарка ідзе аб тым, што калгас «Чырвоны сцяг» абяцае здаць валакно 14 нумарам. Вось і ўсё.

27 і 30 верасня і 4 кастрычніка. Пасля доўгага маўчання—раптоўная трывога. Самасупакоенасць знікае, як туман. 4 кастрычніка на першай паласе змяшчаецца артыкул «Апрацоўка і здача ільну дзяржаве—пад пагрозай зрыву».

Аказваецца, і апрацоўка, і здача ільну па калгасах зоны дзейнасці МТС фактычна не пачыналіся. План не выконваецца.

Але гісторыя паўтараецца. Пракрычаўшы «караул», рэдакцыя зноў спіхае. Зноў—стаўка на самацёк.

Газета яўна імкнецца замаўчаць, што МТС ганебна адстала. Газета не хоча гаварыць аб тым, як выконваецца план здачы ільну. Наадварот, «Сталінскі заклік» стараецца паказаць, што ўсё па меншай меры, добра.

Вазьміце нумар за 14 кастрычніка. На трэцяй паласе падвярстаны: аншлаг «Перадавікі ільнозагатовак», два рапарты і заметка «Б'ем трывогу». Два словы «перадавікі ільнозагатовак» набраны такім буйным шрыфтом, што займаюць больш месца, чым уся заметка «Б'ем трывогу». Пад аншлагам—два рапарты аб тым, што калгасы «Рассвет» і «Октябр» выканалі планы ільнозагатовак. А пад імі, так непрыкметна, у самым канцы паласы, некалькі радкоў дробнага петыту:

> **«Б'ем трывогу. За адставанне ў апрацоўцы і здачы ільну наш раён папярэджан. Усе сілы на ўзмацненне тэмпаў ільнозагатовак».**

Не думайце, што газета ўсур'ёз заклікае ўзмацніць ільнозагатоўкі. У наступным нумары—ні слова аб ходзе ільнозагатовак. Змяшчаецца толькі адзін артыкул «Як я апрацоўваю лён» (аб рабоце тав. Якаўлева ў калгасе «Прагрэс», Невельскага раёна). Рэдакцыя паленавалася даць хоць-бы некалькі слоў ад сябе, сказаць, што калгасы Гарадоцкай МТС павінны раўняцца на калгасу «Прагрэс».

# Чаго не зрабіла газета

**КОМУНАР**
газета палітаддзела
Бялыніцкай МТС

20 верасня **«Комунар»** змясціў заметку аб калгасе «Дзень Чырвонай арміі». Газета шчыра хваліла гэты калгас. Яна назвала яго «перадавым па ўсіх гаспадарча-палітычных кампаніях». Падставы: план хлебапаставак выканан датэрмінова; скончана ўборка бульбы; у два разы павялічылася вага калгаснага працадня (летась — 2,5 кгр., у гэтым годзе — 5 кілограмаў) і т. д.

Пра адно толькі ні слова не сказала рэдакцыя «Комунара». А іменна, як калгас «Дзень Чырвонай арміі» змагаецца за лён.

Гэты факт не з'яўляецца выпадковасцю. «Комунар» — газета ільнаводчай МТС — менш за ўсё займаецца ільном. Так сабе, час-ад-часу. Мы не хочам гэтым сказаць, што на старонках газеты зусім няма матэрыялаў аб ільне. Ёсць.

Але, па-першае, іх надзвычай мала. Самае большае — дзве заметкі ў нумары. А бывае нават ні радка. Напрыклад, у газеце за 18 і 20 верасня няма ні слова аб тым, як калгасы зоны дзейнасці Бялыніцкай МТС апрацоўваюць і здаюць лён. Няма чырвонай і чорнай дошкі. Няма аператыўных зводак. Праглядзіце камплект за апошні месяц. Нават невядома, наколькі па зоне дзейнасці МТС выканан план здачы ільну. Заметкі пра лён змяшчаюцца часта толькі для падвёрсткі — дзе-небудзь у куточку апошняй паласы.

Па-другое, аб змесце. «Комунар» не бачыць асноўных пытанняў, не ўмее ўхапіцца за рашаючыя звенні. Газета бездапаможна плавае ў моры агульных разважанняў.

**«Будзем змагацца за высокаякасную апрацоўку і здачу ільновалакна дзяржаве».**

**«Не змагаюцца за высокаякасную апрацоўку ільну».**

Гэта — найбольш частыя загалоўкі над заметкамі аб ільне. Пад стандартнымі загалоўкамі — стандартны, аднолькавы змест. У першым выпадку — справы ідуць добра, абяцаем працаваць яшчэ лепш. У другім — загатоўкі зрываюцца, апрацоўка не арганізавана, бо да гэтай справы няма належнай увагі. І так кожны раз: там змагаюцца, тут не змагаюцца, там увага, а тут няўвага і т. д. у тым-жа стылі.

Газета не ўмее выяўляць карэнні адставання, або толкова і зразумела перадаць дадатны вопыт.

Правільна і своечасова налічыць працадні — значыць узняць матэрыяльную зацікаўленасць калгаснікаў у тым, каб лепш і хутчэй апрацаваць і здаць лён. Калгаснік павінен ведаць, што ён атрымае, калі будзе добра апрацоўваць лён. Трэба пільна сачыць, каб працадні налічваліся ў непасрэднай залежнасці ад тэмпаў і якасці апрацоўкі ільну.

«Комунар» мінае гэта пытанне. За ўвесь час газета ні разу не паказала, як налічваюцца ільняныя працадні. Аб авансаванні хлебам, аб прэміраванні за перавыкананне норм апрацоўкі рэдакцыя таксама нічога не пісала і не піша. «Комунар», такім чынам, самаўхіліўся ад усіх рашаючых пытанняў апрацоўкі ільну. Калі да гэтага дадаць, што рэдакцыя літаральна ні слова не сказала аб тым, як скарыстоўваюцца ільноапрацоўчыя машыны, то стане зразумелым, чаму рэдакцыі прыходзіцца прызнавацца:

**«...па апрацоўцы і здачы ільновалакна мы на сёнешні дзень ганебна адстаем».**

— Дзе прычыны такога адставання, — ставіць пытанне рэдакцыя «Комунара». Аказваецца, у

**«Самаўспакоенасці некаторых старшынь сельсоветаў, а ў першую чаргу, старшынь і парторгаў калгасаў...»**

Неадкладны і несамакрытычны адказ. Факты гавораць аб тым, што значная доля віны ляжыць на самой рэдакцыі.

# „ЧАМУ ТЫ, ЯРОМА, НЕ СІЛАСУЕШ?“

Звыш трох месяцаў прайшло з часу чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б). Пленум намеціў практычныя мерапрыемствы па ажыццяўленню дырэктыў 17 партз'езда аб развіцці жывёлагадоўлі. Мерапрыемствы, прынятыя пленумам, забяспечваюць ужо на працягу 1934-35 гадоў ажыццяўленне важнейшага лозунга далейшага ўздыму жывёлагадоўлі — **«Кожнаму калгасу — таварную ферму»**. Пленум вызначыў рад мерапрыемстваў, заахвочваючых калгасы і калгаснікаў да павелічэння пагалоўя, да павелічэння яго прадукцыйнасці.

«Арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне існуючых калгасных таварных ферм і стварэнне фермы ў кожным калгасе павінны стаць першачарговай задачай партыйных і совецкіх арганізацый... Усякім спробам падарваць калгасную ферму і разбазарыць калгасную таварную ферму, неабходна даць рашучы адпор, як антыкалгасным вылазкам класавага ворага»—такава дырэктыва чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б).

Зразумела, якія вялікія і адказныя задачы пастаўлены перад усім партыйна-совецкім друкам у справе вырашэння жывёлагадоўчай праблемы.

ЛЕНІНСКІ ШЛЯХ

ОРГАН ПАЛІТАДДЗЕЛА ЛЕЛЬЧЫЦКАЙ МТС



Вось газета **«Ленінскі шлях»**. Выдаецца яна палітаддзелам Лельчыцкай МТС. Газета выходзіць у раёне, які мае жывёлагадоўчы напрамак. Ад гэтай газеты мы ў праве патрабаваць сапраўды ўзорнай работы па ўздыму жывёлагадоўлі, па рэалізацыі рашэнняў 17 партз'езда і чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б). Цяпер звернемся да фактаў.

У верасні і да 11 кастрычніка вышла восем нумароў газеты. Мы ўважліва вывучылі гэтыя нумары. Які вывад трэба зрабіць? Газета не займаецца пытаннямі жывёлагадоўлі, рэдактар газеты (тав. **Скурат-Анісовіч**) не зрабіў для сябе ніякіх вывадаў з рашэнняў 17-га партз'езда і чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б).

Цяжка знайсці лепшы прыклад злачыннага нежадання рэдакцыі заняцца сваёй першачарговай справай. Верасень і кастрычнік—гэта месяцы на працягу якіх па ўсіх калгасах павінна быць закончана падрыхтоўка ферм да зімы: забеспячэнне кармамі, сіласаванне, ацяпленне хлявоў. Што-ж робіць газета «Ленінскі шлях»?

Яна друкуе 21 верасня невялічкую заметачку: **«Чаму ты, Ярома, не сіласуеш?»**. Паведамляе газета, што калгас «Прамень комунізма» да 15 кастрычніка не засіласаваў ні адной тоны зялёнай масы. Старшыня калгаса ніякай увагі не звяртае на калгаснае стада. У канцы заметачкі газета робіць здзіўляючы сваёй бяззубасцю вывад: «Цікава, чым ён (старшыня) будзе карміць жывёлу ўзімку». Ці так трэба змагацца з людзьмі, якія ігнаруюць важнейшыя дырэктывы партыі, тав. **Скурат-Анісовіч?**

Гэта няўдалая заметка—адзіны матэрыял аб сіласаванні, змешчаны ў газеце на працягу паўтара месяца.

За гэты час «Ленінскі шлях» не паказаў шырока ні адной калгаснай таварнай фермы ні з дадатнага, ні з адмоўнага боку.

Нам здаецца, што рэдактара газеты Лельчыцкай МТС усё-ж ахапляе часамі сумненне ў правільнасці ўзятай ім лініі. Тады ён выступае ў газеце з гучным аншлагам. Вось, напрыклад, 11-га кастрычніка над усёй трэцяй старонкай газеты дана «шапка»: «Уключайцеся ва ўсесаюзны жывёлагадоўчы паход імя 7-га з'езда советаў».

На гэтай старонцы змешчаны дзве інфармацыі: першая аб тым, што аршанскія калгаснікі заклікаюць правесці ўсесаюзны жывёлагадоўчы паход імя 7-га з'езда советаў, і другая аб тым, што 25-га кастрычніка адбудзецца ўсебеларуская нарада па жывёлагадоўлі.

Абодва гэтыя паведамленні, безумоўна, неабходны і надрукаваць іх трэба было значна раней. Але к часу выхаду гэтага нумара газета павінна была ўжо шырока паказаць, што-ж робіцца ў раёне на калгасных фермах, як фермы рыхтуюцца да зімы.

Замест такога шырокага дзелавога паказу мы знаходзім на гэтай старонцы збор некалькіх выпадковых заметак,

прычым некаторыя з іх да жывёлагадоў-лі маюць вельмі далёкія адносіны («свін ні расцятваюць каласы» і інш.).

Ясна відаць, што гэта адзіная за чаўтара месяца старонка аб таварных фермах надрукавана толькі для таго, каб адчапіцца, каб паказаць, што газета усё-ж такі не забывае пра жывёлагадоўлю.

Такава сумная аповесць пра тое, як лельчыцкая палітаддзельская газета «змагаецца» за ўздым жывёлагадоўлі.

## ПА ЛЕНІНСКІМ ШЛЯХУ

Зусім іншае трэба сказаць пра газету палітаддзела **Лагойскай МТС «Па ленінскаму шляху».** Нумары за верасень і палову кастрычніка, прагледжаныя намі, сведчаць аб тым, што рэдакцыя газеты добра разумее сваю ролю ў справе ўзняцця жывёлагадоўлі і з усёй адказнасцю вядзе работу ў гэтым напрамку.

У пачатку верасня рад калгасаў, абслугоўваемых МТС, марудзілі з сіласаваннем. Газета палітаддзела па-баявому выступіла супроць тых, якія недаацэньвалі сілос, зрывалі стварэнне моцнай кармовай базы для жывёлы. Старонкі газеты запаўняюцца матэрыяламі з калгасаў, у якіх выкрываюцца зрыўшчыкі сіласавання. Газета адкрыта называе іх прозвішчы, патрабуе прыняцця да іх суровых мер. Палаза газеты за 12 верасня пад «шапкай» **«Усе сіласныя ямы і траншэі запоўніць зялёнай масай»** амаль цалкам прысвечана ходу сіласавання.

І ў наступным нумары газета не забывае пра сілас. Тыя кіраўнікі калгасаў, якія пасля першага папярэджання газеты не зрабілі пералому ў ходзе сіласавання, у нумары за 21 верасня занесены ў ганебны спіс. Тут-жа радам газета паказвае калгасы, якія ўжо выканалі план сіласавання.

Адразу відаць, што газета працуе не рыўкамі, а ўпарта дабіваецца завяршэння той справы, якую яна пачала.

Своечасова ўзялася газета за пытанні падрыхтоўкі да зімы памяшканняў ферм. 21 верасня ў артыкуле «Рыхтаваць зімоўку жывёле» газета ўжо дала разгорнуты малюнак таго, як калгасы зоны дзейнасці МТС рыхтуюць памяшканні ферм да зімы. Жорстка крытыкавала газета кіраўнікоў калгасаў імя Варашылава, «Профінтэрн», «Чырвоныя Падонкі» і інш., якія яшчэ не агледзелі і не прывялі ў парадак свае фермы. Асобна спыняецца газета на кіраўніках —камуністах, ад якіх яна патрабуе ўзорнай барацьбы за ўзняцце жывёлагадоўлі.

Газета «Па ленінскаму шляху» пачала падрыхтоўку да ўсебеларускай нарады па жывёлагадоўлі. Гэту кампанію газета вядзе пад лозунгам разгортвання спаборніцтва калгасных ферм на атрыманне права паслаць дэлегатаў на нараду. **«Гэта права можна заваяваць толькі падрыхтоўкай сытай і цёплай зімоўкі жывёле»,**—піша газета 17 кастрычніка. Выходзячы з гэтай, зусім правільнай, устаноўкі, газета з нумара ў нумар змагаецца за ўсебаковую падрыхтоўку да зімы кожнай фермы калгасаў зоны МТС.

Недахоп газеты «Па ленінскаму шляху» ў тым, што сярод шматлікага матэрыяла аб калгасных таварных фермах, амаль няма паказу работы **ДОБРЫХ, ПЕРАДАВЫХ ФЕРМ.** Газета яшчэ не ўмее добра падаць **ВОПЫТ** лепшых ферм.

Першая спроба шырока паказаць таварную ферму атрымалася ў газеце няўдала. Мы гаворым пра артыкул аб ферме калгаса «Бальшэвік», надрукаваны ў 52 нумары газеты. З прыведзеных у артыкуле фактаў і лічбаў відаць, што ферма дабілася ў апошні час значных поспехаў, што вопыт у работнікаў фермы ёсць. **Але вопыт гэты ў артыкуле не перадан.**

Большую частку гэтага досыць доўгага артыкула займаюць агульныя разважанні аб жывёлагадоўлі. У двух словах сказана, што ферма дабілася поўнага спынення адыходу маладняка, што на ферме знішчана цякучасць рабочай сілы.

Кожнаму калгасніку цікава і патрэбна ведаць не толькі тое, чаго дабілася перадавая ферма, але і **ЯК** яна дабілася гэтага, ведаць вопыт работы калектыва, абслугоўваючага ферму. Гэтага ў артыкуле якраз няма.

Трэба больш змяшчаць матэрыялаў аб перадавых фермах, трэба ўзброіваць адстаючых вопытам перадавікоў. Трэба навучыцца пісаць пра ўзорную ферму так, каб артыкул сапраўды вучыў, перадаваў вопыт жывых людзей—перадавікоў соцыялістычнай жывёлагадоўлі.

# Маўчальнікі з „Рэчыцкай праўды“




ЦК КП(б)Б у сваёй пастанове аб разгортванні марксісцка-ленінскай вучобы на асенне-зімовы перыяд прапанаваў усім гаркомам, райкомам КП(б)Б, палітаддзелам МТС і соўгасаў «арганізаваць работу па партасвеце так, каб забяспечыць паляпшэнне якасці прапаганды марксізма-ленінізма і рашэнняў XVII з'езда партыі, узняць узровень ідэйна-палітычнай узброенасці членаў, кандыдатаў партыі і спачуваючых на яшчэ больш высокую ступень, у адпаведнасці з дырэктывамі XVII з'езда партыі».

Гэта абавязвае наш друк узмацніць барацьбу за разгортванне марксісцка-ленінскага выхавання камуністаў, дапамагчы партыйным арганізацыям узняць якасць работы школ і гурткоў, дабіцца таго, каб школа давала слухачу ўсебаковае палітычнае развіццё, адпавядаючае патрабаванням статута партыі.

Ці зразумела ўсю важнасць гэтага пытання рэдакцыя райгазеты **«Рэчыцкая праўда»** (рэдактар тав. **Кузняцоў**)? Факты гавораць, што не зразумела.

Рэчыцкая партыйная арганізацыя складаецца з вялікай колькасці камуністаў-рабочых прадпрыемстваў горада, камуністаў-калгаснікаў. Па пастанове ЦК КП(б)Б у гарадскіх партарганізацыях яшчэ ў верасні павінна была разгарнуцца партыйная вучоба. Кастрычнік—месяц разгорнутай падрыхтоўкі да зімовай марксісцка-ленінскай вучобы ў вясковых партарганізацыях.

«Рэчыцкая праўда» абавязана была зараз штодзённа на сваіх старонках весці барацьбу за якасць вучобы гарадскіх школ, за дзелавую падрыхтоўку вясковых партарганізацый да пачатку заняткаў.

Аднак, газета нават не палічыла патрэбным сказаць ніводнага слова аб становішчы марксісцка-ленінскай вучобы ў рэчыцкай партарганізацыі. На старонках газеты, якая выходзіць штодзённа, не знайшлося месца для аднаго з **асноўных** пытанняў партыйнай работы. Рэдактар газеты тав. Кузняцоў не разумее, што павышэнне палітычных ведаў камуністаў з'яўляецца зброяй паспяховага выканання чарговых гаспадарча-палітычных кампаній і ўсіх пастаноў партыі, што разгортванне партыйнай вучобы з'яўляецца адной з важнейшых задач партыйных арганізацый.

Гэта неразуменне прывяло да антыпартыйнага паступка газеты, які выявіўся ў незмяшчэнні пастановы ЦК КП(б)Б аб разгортванні партвучобы. «Рэчыцкая праўда» не палічыла патрэбным змясціць пастанову ЦК КП(б)Б. 12 верасня яна змясціла пастанову райкома аб арганізацыі партыйнай вучобы і гэтым абмежавалася. Больш да пытання марксісцка-ленінскага выхавання ў арганізацыі «Рэчыцкая праўда» не варочаецца.

Рэчыцкая газета павінна зразумець, што пытанне партыйнай асветы — гэта адно з асноўных пытанняў партыйнай работы і яна абавязана штодзённа над ім працаваць.

# Прыгладжаная самакрытыка

Забяспечыць апалам прамысловасць і пролетарскія цэнтры — баявая гаспадарча-палітычная задача. Аднак, далёка не ўсе газеты БССР зразумелі выключнае значэнне гэтай справы.

Да ліку такіх газет перш за ўсё трэба аднесці **«Соцыялістычны лесасплаў»** (газета Бярэзіна-дняпроўскай сплаўканторы, Бабруйск).

Рэдактар газеты тав. **Фейгін** не скупіцца на дэкларацыі і агульныя разважанні. Ён настомна перапявае адны і тыя-ж элементарныя ісціны, але за словамі не следуюць справы.

7 верасня рэдакцыя выступіла з перадавым артыкулам аб падрыхтоўцы да злёта знатных людзей лясной прамысловасці. «Соцыялістычны лесасплаў» заклікаў:

> **«Наша задача дабіцца, каб да злёта поўнасцю завяршыць сплаў, каб не было ніводнага адстаючага сплаўучаст ка».**

І далей газета прадаўжала:

> **«Забеспячэнне прамысловасці і рабочых апалам — баявая і ганаровая задача партыйных і прафесіянальных арганізацый, усіх ударнікаў лесасплаву».**

Як-жа выконваецца гэта задача? 15 верасня газета змяшчае пісьмо кіраўніка трэста «Лесбел» тав. Шапіра, які рэзка крытыкуе работу і самой канторы і яе ўчасткаў. Гутарка ішла аб тым, што тэмпы сплаўных работ ганебна знізіліся, што кантора недапушчальна адстала.

Да гэтых фактаў рэдакцыя аднеслася з дзіўным спакоем. Да пісьма г. Шапіра рэдакцыя дае наступную заўвагу:

> **«Змяшчаючы ліст кіраўніка трэста «Лесбел», лічым сігнал тав. Шапіра своечасовым і правільным і т. д».**

Злітаваліся, адным словам, прызналі «сігнал своечасовым і правільным», а далей хоць трава не расці. І гэта замест таго, каб выкрыць, хто вінават у такім становішчы, хто зацягвае лесасплаў, замест таго, каб узняць увесь калектыў, усіх сплаўшчыкаў, мабілізаваць іх на ліквідацыю адставання.

Артыкулы газеты, у якіх гаворыцца аб адмоўных фактах, як правіла, абязлічаны. У тым-жа нумары, дзе змешчана пісьмо т. Шапіра, ёсць перадавы артыкул аб Бярэзінскім участку (самы адстаючы з усіх участкаў канторы). Рэдакцыя сігналізуе, што калі не прыняць экстраных мер, то на Бярэзінскім участку

> **«...будзе сарвана не толькі выкананне плана сплаву, але не мінуе і пагроза замарожвання вялікай колькасці каштоўнай драўніны».**

Але хто вінават у зрыве лесасплаву? Прозвішчы і імёны? Невядома. Усё абязлічана.

У чарговых нумарах — тая-ж карціна. Грамавыя «шапкі»:

> **«Далейшае адставанне — злачынства. Тры процанты прыплаву — ганебная лічба. Ва што-б там ні стала пасіліць тэмпы сплаву!».**

А пад гэтымі «шапкамі» — па сутнасці ніякіх канкрэтных матэрыялаў. Ні адной спробы выкрыць канкрэтных вінаўнікаў, паказаць, хто-ж іменна зрывае лесасплаў, паставіць пытанне аб адказнасці. Рэдакцыя страляе ў паветра.

Газета не паказвае работу перадавых участкаў, не папулярызуе вопыт лепшых ударнікаў лясной прамысловасці. Аб соцыялістычным спаборніцтве рэдакцыя проста не ўспамінае. Большасць матэрыялаў, змешчаных у газеце, напісаны самой рэдакцыяй. Рабкораўскія пісьмы змяшчаюцца вельмі рэдка.

***

Рагачоўскі леспрамгас ганебна зрывае свае вытворчыя заданні. План трэцяга квартала не выканан (па загатоўцы дзелавой драўніны — 62,9 проц., па вывазцы дроў — 79,9).

Гэта, аднак, нікольні не турбуе рэдактара рагачойскай газеты «Комунар» тав. **Левіна.** За ўвесь час — ні радка аб загатоўках і вывазцы лесаматэрыялаў і дроў. Літаральна ні слова.

...Аднаасобнік Ефрэмаў, які працаваў у Рагачоўскім леспрамгасе, не атрымаў зарплаты яшчэ за мінулы год. Аб гэтым Ефрэмаў рашыў напісаць у газету «Комунар».

6 кастрычніка рэдакцыя змяшчае пісьмо Ефрэмава «500 кілометраў пяшком у леспрамгас за грашыма». Пісьмо Ефрэмава праліває святло на прычыны адставання леспрамгаса.

Тав. Левіну варта было-б сур'ёзна задумацца над пісьмом аднаасобніка Ефрэмава, паглядзець, што за людзі сядзяць у леспрамгасе, скарыстаць гэта пісьмо для таго, каб выкрыць нягодных работнікаў, бюракратаў, палепшыць работу леспрамгаса.

Але рэдактар «Комунара» не хоча парушаць свайго маўчання. Аб леспрамгасе, аб ходзе дровалесазагатовак, як і раней, ні слова.

Як ацаніць гэта маўчанне? Газета зусім не змагаецца за выкананне адной з важнейшых гаспадарча-палітычных задач — за бесперабойнае снабжэнне прамысловасці і рабочых апалам.

Юр. БЕЛЬКО

# Прапаганду агразоатэхнікі—на вышэйшую ступень

Набліжаецца зіма. Зімовы час соўгасы і калгасы павінны выкарыстаць для ўсебаковай падрыхтоўкі да новага сельска-гаспадарчага года, да бальшэвіцкага правядзення веснавой сяўбы. Адной з важнейшых задач зараз з'яўляецца падрыхтоўка калгасных кадраў масавых спецыяльнасцей. З гэтым пытаннем шчыльна звязана **прапаганда агратэхнікі**, узбраенне кіруючых работнікаў соўгасаў і калгасаў—брыгадзіраў, звенявых, паляводаў неабходным мінімумам агратэхнічных ведаў.

Задача раённых і палітаддзельскіх газет—дапамагчы соўгасам і калгасам у гэтай справе. Што патрабуецца ад газет? Перш за ўсё **наладжанне добрай пастаноўкі агразоатэхпрапаганды на сваіх старонках.**

Агразоатэхніку на службу соцыялістычным палям, соцыялістычнай жывёлагадоўлі—вось лозунг, які павінен рухаць уперад прапаганду агразоатэхнікі на старонках газет. Гэта значыць, што рэдакцыя газеты перш за ўсё павінна ведаць характэрныя асаблівасці свайго раёна, соўгасаў і калгасаў, іх спецыялізацыю і, выходзячы з гэтага, будаваць план па агразоатэхпрапагандзе. Наколькі гэта неабходна, наўрад ці трэба даводзіць. Прывядзем толькі адзін прыклад. У **Мазырскім** раёне сотні гектараў займаюць забалочаныя землі. Між тым у раёне амаль нічога не робіцца для асушкі гэтых плошчаў. Сотні гектараў каштоўнейшай зямлі не выкарыстоўваюцца. Асобныя калгасы без усякай дапамогі і парады бяруцца за справу і пачынаюць асушваць балоцістыя ўчасткі. У раёне выходзіць раённая газета. У газеце друкуюцца артыкулы аграномаў па розных пытаннях, але дарэмна ў ёй шукаць хоць-бы аднаго артыкула пра тое, як трэба асушваць балоты. Газета нават вельмі мала робіць для перадачы вопыта тых калгасаў, якія самі ўзяліся за асушку балот.

Паданы прыклад гаворыць аб няведанні рэдакцыяй свайго раёна, яго асаблівасцей, аб няўменні звязваць агратэхпрапаганду з канкрэтнымі ўмовамі свайго раёна. А ці адзін Мазырскі раён у БССР мае балоты? Далёка не адзін. Аднак, сказанае пра **«Калгаснік Мазыршчыны»** трэба цалкам аднесці і да іншых палескіх раёнаў.

Зусім не цяжка наладзіць затрыманне пяскоў лазой. У Петрыкоўскім і Тураўскім раёнах сыпучыя пяскі кожны год засыпаюць дзесяткі гектараў пахаці. Лазы ў раёне вельмі многа. Патрэбны толькі энергічныя ініцыятыўныя людзі для таго, каб пачаць справу, паказаць калгаснікам спосаб затрымання пяскоў. Каму, як не раённай газеце, быць гэтым ініцыятарам. Але поўнае забыванне петрыкоўскай і тураўскай газетамі гэтай важнейшай справы гаворыць зусім не ў карысць ініцыятыўнасці работнікаў гэтых рэдакцый.

План агразоатэхпрапаганды газеты патрэбна будаваць на аснове спецыфікі данага раёна, яго спецыялізацыі. Гэта значыць, што газета, напрыклад, ільнаводчага раёна павінна сістэматычна друкаваць артыкулы аб тым, як сеяць лён, як яго апрацоўваць. Гэта не значыць, што агратэхніка астатніх культур і заатэхніка гэтай газеты не датычаць, аднак, упор патрэбна рабіць на культуры, якія займаюць вядучае месца ў сельскай гаспадарцы раёна.

## ВУЧЫЦЬ НА КАНКРЭТНЫХ ПРЫКЛАДАХ

Неабходна сур'ёзнейшую ўвагу звярнуць на якасць усякага роду матэрыялаў па агразоатэхпрапагандзе, якія друкуюцца на старонках газет. Буйны недахоп гэтых матэрыялаў у тым, што

вельмі часта яны пішуцца агульна, сухой канцылярскай мовай, з ужываннем незразумелых калгаснікам іншамоўных і вузка навуковых тэрмінаў.

Якім павінен быць артыкул на агразаатэхнічную тэму? Перш за ўсё ўвесь артыкул павінен быць напісан проста і зразумела. Толькі ў такім выпадку ён дойдзе да калгасніка і дасць карысць. Другое патрабаванне: у артыкуле павінны быць канкрэтныя прыклады практыкі соўгасаў і калгасаў. Прыклады будуць навочна пацвярджаць, ілюстраваць навуковыя ўстаноўкі, паданыя ў артыкуле. Зразумела, наколькі артыкул ад гэтага выйграе.

Возьмем к прыкладу артыкул аб ранняй сяўбе. Перад тым, як пісаць гэты артыкул, аўтар павінен сабраць фактычны матэрыял. Неабходна адшукаць у раёне калгас, які ў мінулую пасеўную кампанію ўзараў і засеяў глебу рана, даведацца, колькі зярна ён сабраў з гектара. Такую-ж работу неабходна прарабіць з тым калгасам, які правёў сяўбу ў позні тэрмін. Такім чынам аўтар артыкула аб ранняй сяўбе будзе мець пад рукамі патрэбныя прыклады, якія зробяць артыкул больш пераканаўчым.

Вялікае значэнне маюць таксама артыкулы, перадаючыя вопыт перадавых соўгасаў і калгасаў, іх практыку ўжывання палепшаных спосабаў апрацоўкі глебы, вопыт паказальнага догляду жывёлы. Рэдакцыя абавязана ведаць не толькі па назвах перадавыя соўгасы, калгасы, фермы, але разам са спецыялістамі вывучаць іх вопыт і асвятляць яго ў газеце.

Гэтай справай большасць нашых газет займаецца вельмі дрэнна. Друкуе, напрыклад, газета артыкул аб соўгаснай ці калгаснай ферме, на якой дабілася высокага ўдою малака. У артыкуле ўказваецца лік жывёлы на ферме, называюцца прозвішчы работнікаў фермы, у канцы-ж артыкула рэдакцыя высоўвае галоўны «аргумент», які па яе думцы павінен перадаваць вопыт работы фермы: «Раней на ферме надойвалі ў дзень столькі і столькі літраў малака, а цяпер надойваюць столькі і столькі». Такі артыкул вопыта работнікаў перадавой фермы не перадае і цана такому артыкулу малая. На жаль, па такому прынцыпу пішуцца артыкулы пра вопыт перадавых калгасаў, ферм яшчэ ў большасці нашых раённых і палітаддзельскіх газет.

Дзе прычына гэтаму? Не будзем спыняцца на нежаданні многіх рэдактароў папрацаваць над матэрыялам, які павінен перадаваць вопыт. Галоўная прычына—у **няведанні многімі работнікамі рэдакцый нават асноў тэхнікі сельскай гаспадаркі.** Такі работнік рэдакцыі, папаўшы на калгасную ферму, не можа прааналізаваць яе работу і абмяжоўваецца толькі тым, што запісвае прозвішчы і лічбы.

**Павышэннем сваіх ведаў у галіне агразаатэхнікі павінны заняцца ўсе работнікі рэдакцый раённых і палітаддзельскіх газет, пачынаючы ад рэдактара і канчаючы ўсімі работнікамі газет.**

## ЗА МАСАВУЮ АГРАЗААТЭХВУЧОБУ Ў СОЎГАСАХ і КАЛГАСАХ

Асенне-зімовы час трэба выкарыстаць для ўзмоцненай агразаатэхнічнай вучобы рабочых соўгасаў і калгаснікаў. Барацьба за добрую пастаноўку гэтай вучобы, за ўцягненне ў агразаатэхгурткі шырэйшых мас—справа вялікай важнасці, якою павінен заняцца наш друк.

За гэту справу неабходна прыняцца зараз-жа.

У кожным раёне на працягу восені і зімы павінны быць праведзены курсы па падрыхтоўцы кадраў масавых спецыяльнасцей для калгасаў. Задача газет—узяць работу гэтых курсаў пад свой нагляд, рэгулярна асвятляць іх работу, займацца **якасцю вучобы на курсах.** Газеты павінны дабіцца разгортвання работы курсаў масавых спецыяльнасцей зараз-жа, не адкладваючы гэту справу на весну, як гэта было ва многіх раёнах у гэтым годзе.

Другая задача газет—змагацца за пашырэнне сеткі агразаатэхгурткоў. У кожным калгасе павінен працаваць сама менш адзін гурток па вывучэнню агразаатэхнікі. Газеты могуць многа дапамагчы раённым арганізацыям у гэтай справе. Патрэбна заняцца выяўленнем людзей, якія будуць выкладаць у гуртках, забеспячэннем гурткоў патрэбнымі для заняткаў памяшканнямі, вучэбнымі праграмамі, літаратурай. Нельга ўпусціць з-пад увагі і такія на першы погляд «дробязі», як лямпы, лямпавае шкло, газа. У мінулым годзе ў асобных раёнах заняткі гурткоў агразаатэхвучобы зрываліся іменна з-за нястачы лямп,

газы і інш. Мінулай зімой у **Жыткэвіцкім** раёне некалькі месяцаў нельга было знайсці ў крамах ні аднаго лямпавага шкла. Заняткі агразоатэхгурткоў не праводзіліся.

Асенне-зімовая агразоатэхвучоба павінна быць шчыльна звязана з разгортваннем у калгасах і соўгасах работы ячэек **«ЗОТ»**. Работа гэтай арганізацыі толькі пачынае пранікаць на вёску. Задача газет—дапамагчы ўмацаваць ячэйкі «ЗОТ». Газеты павінны асвятляць іх работу. З дапамогай нашага друку ячэйкі «ЗОТ» павінны быць арганізаваны ў кожным соўтасе і калгасе.

## ЗАНЯЦЦА ВЫНАХОДСТВАМ І ВОПЫТНІЦТВАМ У СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРЦЫ

У кожным раёне ёсць дзесяткі соўгасаў і калгасаў, якія засяваюць **вопытныя ўчасткі,** уводзяць у гаспадарку новыя культуры. Сотні калгаснікаў працуюць над удасканаленнем сельска-гаспадарчых машын. Арганізатарам гэтай узрастаючай магутнай хвалі вынаходніцкай і рацыяналізатарскай думкі павінны быць перш за ўсё раённыя і палітаддзельскія газеты. А як часта яшчэ мы даведваемся пра вынаходства якоганебудзь рабочага ці калгасніка, пра каштоўнейшы вопыт, пастаўлены ў калгасе, толькі з рэспубліканскага і саюзнага друку ў той час, як раённая газета не ведае пра іх ці не хоча адвесці месца для іх на сваіх старонках.

Дадатныя прыклады ў гэтых адносінах пакуль што яшчэ вельмі рэдкія, але ўсё-ж ёсць. Нядаўна ў **«Калгасніку Беларусі»** была змешчана заметка са **Старобінскага** раёна, у якой расказваецца, **як з дапамогай газеты палітаддзела МТС** у калгасе **«Свабода»** пачалі сеяць сою.

Гэты невялікі прыклад гаворыць аб велізарных магчымасцях, якія мае раённы і палітаддзельскі друк у справе дапамогі вопытніцтву. І трэба поўнасцю выкарыстаць гэтыя магчымасці.

Рэдакцыя раённай і палітаддзельскай газеты павінна стаць месцам, дзе-б вопытнік і вынаходца заўсёды мог атрымаць патрэбную дапамогу і параду. Але калгаснік-вопытнік прыдзе ў рэдакцыю за парадаю толькі тады, калі газета будзе цікавіцца ім, яго работай, калі рэдактар персанальна будзе ведаць кожнага вопытніка і вынаходцу ў раёне.

Некалькі год назад многія газеты рэгулярна друкавалі аддзел «Адказваем на пытанні». У газеце калгаснік атрымліваў адказ, даведку і параду па рознага роду пытаннях агразоатэхнікі. Гэта добрая справа нашымі газетамі забыта зусім незаслужана. Безумоўна, неабходна гэты аддзел у раённых і палітаддзельскіх газетах аднавіць, прыцягнуць да складання адказаў на пытанні аграномаў, ветурачоў і спецыялістаў.

## КОЖНАМУ КАЛГАСУ—ХАТУ-ЛАБАРАТОРЫЮ

Разгортванне на вёсцы вынаходства і вопытніцтва патрабуе арганізацыі ў калгасах нейкага цэнтра, дзе-б вяліся доследы над раслінамі, па жывёлагадоўлі, дзе-б адбывалася і групавалася работа вопытнікаў і вынаходцаў калгаса. Па ініцыятыве тав. **Постышэва** на Украіне масавы характар набыла арганізацыя ў калгасах хат-лабараторый.

«Прыязджаеш у калгас—там ёсць і палявод, і селькоры, і комсамольцы, і ўдарнікі—перадавыя калгаснікі, беспартыйныя і партыйныя. Але няма ў іх культурнага ачага. Я раю вам узяцца за гэту справу. У кожным калгасе можна знайсці добрую хату. Адрамантуйце яе і зрабіце гэту хату свайго роду лабараторыяй. Падбярыце ў спецыяльных скрыначках усе культуры, якія сее даны калгас, зернавыя, тэхнічныя травы. Падбярыце плакаты навуковыя, па агранаміі і экспанаты розныя. Стварыце магчымасць рабіць у гэтай, хай прымітыўнай, але ўсё-ж лабараторыі, вопыты з зярном на ўсхожасць. Арганізуйце кансультацыі па пытаннях жывёлагадоўлі, па кармовай базе, хваробах жывёлы, метадах правільнага кармлення жывёлы, догляду яе».

Раённы і палітаддзельскі друк БССР, за некаторымі выключэннямі, яшчэ не падхапіў гэтага важнейшага ўказання т. Постышэва.

Вопыт арганізацыі хат-лабараторый у калгасах Украіны неабходна шырока выкарыстаць у нас, у БССР. Арганізаваць у кожным калгасе невялікую хату-лабараторыю—зусім рэальная задача. Раённы і палітаддзельскі друк БССР павінен стаць ініцыятарам гэтай вялікай справы і прасачыць за давядзеннем яе да канца.

П. ЖАРСКІ

# Працаваць над мовай газеты
## удумна і старанна

Штодня праглядаючы раённыя газеты, мы прыходзім к заключэнню, што значных зрухаў у паляпшэнні газетнай мовы яшчэ няма. Праўда, у некаторых газетах адчуваецца імкненне падаць матэрыял культурна, граматна. Але ў большасці выпадкаў мы не наглядаем нават і такога імкнення.

Безліч усякіх шурпатых, каравых сказаў, чытаючы якія язык можна зламаць, ігнараванне самых элементарных сінтаксічных і арфаграфічных правіл і норм—вось як можна ахарактарызаваць мову большасці раённых газет.

Уменне правільна расставіць словы ў сказе, паставіць на належнае месца члены сказа, удала дапасаваць іх, не гнацца за грамоздзкімі сінтаксічнымі канструкцыямі, падбіраць жывую, не збітую лексіку—вось задача кожнага работніка газеты. Толькі ў такім выпадку форма будзе адпавядаць бальшэвіцкаму баявому зместу нашага друку.

А гэтага якраз і не хапае нашым газетам. Таму ў даным артыкуле мы разгледзім некаторыя новыя моманты словазлучэння, якія дапамогуць работнікам раённых газет правільна арыентавацца пры апрацоўцы і падачы матэрыяла.

Каб сказ быў зразумелым і перадаваў дакладна мысль, трэба ўмець паставіць на адпаведнае месца кожнае слова. Вядома, што не ўсякае слова ў сказе мае аднолькавае значэнне. Сказ складаецца з галоўных членаў—дзейніка і выказніка, ў ім могуць быць таксама і другарадныя—паясняльныя словы. Напрыклад, у сказе «Рабочыя чытаюць сваю шматтыражку» галоўнымі членамі будуць «рабочыя чытаюць», а астатнія — паясняльныя словы.

Каб сказ быў найбольш зразумелым, трэба ведаць, як лепш расставіць словы ў ім.

Хоць беларуская мова і належыць да моваў з вольным парадкам расстаноўкі слоў, усё-ж для кожнага члена сказа ёсць больш-менш пастаяннае месца. Калі-ж змяніць гэты парадак, то фраза становіцца цяжэйшай, менш даступнай па яснасці выражанай думкі, часта набывае падвойны сэнс.

Прывядзем прыклад.

У аршанскім **«Ленінскім прызыве»** (за 14 верасня) знаходзім такі выраз:

> **«Арганізаваліся мы ў жніўні 1933 г. і ў мінулым годзе за ўдарную пастаноўку работы, наша група прэміравана пастановай Цэнтральнага выканаўчага камітэта».**

У гэтай вытрымцы няправільна расстаўлены словы і знакі прыпынку, а ў выніку атрымалася, што група прэміравана не чым-небудзь іншым, а пастановай.

Сінтаксісам беларускай мовы даюцца ў гэтай галіне наступныя ўказанні.

Дзейнік у сказе павінен знаходзіцца перад выказнікам і стаяць пераважна ў пачатку сказа. Перад дзейнікам могуць стаяць словы, якія яго паясняюць.

Выказнік ставіцца пасля дзейніка і толькі зрэдку можа быць перад ім. Адносіць выказнік на канец сказа не трэба, бо ад гэтага галоўная ўвага чытача накіроўваецца на другарадныя члены сказа і выпукляецца не тое слова, якое павінна быць па праву на першым плане.

Паясняльныя словы, выражаныя прыметнікамі, ставяцца перад назоўнікамі, а не пасля іх.

Вось прыблізны парадак расстаноўкі слоў у сказе.

Праўда, ад такога парадку слоў могуць быць заведамыя адступленні. Змена звычайнага парадку расстаноўкі слоў у сказе называецца **інверсіяй.**

Паэты і пісьменнікі вельмі часта карыстаюцца інверсіяй, як своеасаблівым літаратурным прыёмам. Напрыклад, паэт Андрэй Александровіч замест таго, каб сказаць: «Палі бальшэвіцкіх калгасаў сёння шумяць разлівам пшанічнага маршу», піша: «Сёння разлівам пшанічнага маршу шумяць бальшэвіцкіх калгасаў палі». Такім наўмысным адступ-

леннем ад прынятых сінтаксічных норм паэт дасягнуў рытмічнасці і музычнасці сваіх радкоў.

Прыём інверсіі можна ўжываць і ў газетнай мове, але толькі ім трэба карыстацца вельмі ўмела. Інакш ён прывядзе да зацямнення думкі, да затушоўвання асноўнага ў сказе, да двухсэнсіцы. І такая змена парадку слоў выступае ўжо не як літаратурны прыём, а як хаатычнае награмаджэнне слоў, як рэзультат бездапаможнага абыходжання з мовай.

Для прыкладу прывядзем сказ з сененскага «Комунара» (нумар ад 11 верасня):

> **«Іх сваеасабістыя характары бытавога жыцця і штодзённыя мары аб свэім бюджэце кропля ў кроплю паходзяць адзіч на аднаго, не ўзабаве яны загаманілі адной мовай і саставілі цялежку на лёгкім ходу к дадатковай крыніцы павелічэння сваіх бюджэтаў».**

У пагоні за вобразам, за жывасцю аўтар столькі нацягаў розных «прыгожых» слоў, расстаў іх так, што ў выніку фраза стала надуманай, штучнай і хаатычнай. Адносна такой мовы **В. І. Ленін** у свой час вельмі трапна сказаў: «Мова заблытана так, нібы клубок нітак, з якімі даўно ігрла кацянё».

Вельмі часта адступленне ад звычайнага парадку слоў у сказе бывае ў газетных загалоўках і «шапках». Але і тут няўмеласць карыстання гэтым прыёмам прыводзіць да цяжкасці стылю, да недакладнай перадачы думкі.

Вось адзін з характэрных загалоўкаў глускай газеты: **«Заможнік за прылаўкам арудуе».** Аднясенне выказніка «арудуе» на канец сказа робіць гэты загаловак каравым, як-бы незакончаным, а самае важнае—скажае сэнс. Бо выходзіць, што заможнік можа быць за прылаўкам, абы толькі ён не арудаваў.

Асабліва прадумана трэба расстаўляць словы ў сказе тады, калі дзеясловы падмяняюцца дзеяслоўнымі назоўнікамі. Пры такой падмене звычайна бывае награмаджэнне аднолькавых склонаў, пераважна родных, а гэта прыводзіць да няправільных, непажаданых адценняў думкі, выражанай гэтым сказам. Напрыклад, у лельчыцкім «Калгасніку на варце» (нумар за 19 верасня) пішуць:

> **«Забяспечыць выкананне плана лесазагатовак і вывазкі III квартала ў тэрмін».**

З гэтай фразы вынікае, што трэба вывозіць і трэці квартал. А гэта здарылася ад нанізвання аднолькавых склонаў.

Або вельмі часта мы чытаем падобныя загалоўкі над зводкамі:

> **«Зводка ходу здачы ільну і зябліва».**

Сказ тут выражаецца роднымі склонамі, а ўласцівасць гэтых склонаў **прымыкаць да бліжэйшых слоў,** а не да больш далёкіх. Так, што хоць аўтар і хацеў сказаць «ходу зябліва», атрымалася ўсё-ж «здачы зябліва». Недарэчнасць, якая вышла ад няправільнай і непрадуманай расстаноўкі слоў. Трэба было ўвесці яшчэ адзін родны склон перад словам «зябліва», тады сказ, хоць і быў-бы цяжкім, але не сказіў-бы сэнсу. Тады мы мелі-б: «Зводка ходу здачы ільну і пад'ёму зябліва».

Яшчэ адзін прыклад з старадарожскай газеты «За калектывізацыю»:

> **«Калгасы «Чырвоны франтавік» і «Большэвік» змагаюцца за своечасовую апрацоўку і здачу ільну дзяржаве высокай якасці».**

Пастаноўка ў прыведзеным сказе паясняльных слоў у родным склоне на канцы, адарвана ад паясняемага слова, сказіла сэнс. Аўтар мысліў «лён высокай якасці», а вышла «дзяржаве высокай якасці». Трэба было гэты сказ напісаць так: «Калгасы «Чырвоны франтавік» і «Большэвік» змагаюцца за своечасовую апрацоўку і здачу дзяржаве ільну высокай якасці».

Аналагічны прыклад маем і ў сененскім «Комунары».

> **«Па-баявому разгарнуць уборку бульбы, накіраванне яе самай лепшай якасці проста з поля на здатачныя пункты».**

Гэту фразу чытач таксама можа зразумець падвойна, што не бульбу трэба накіроўваць **проста з поля на** здатачныя пункты, а лепшую якасць.

З гэтых прыкладаў вынікае, што над кожнай фразай трэба грунтоўна працаваць. Трэба прадумваць, як правільней і мэтазгодней расставіць словы, каб мысль была перадана дакладна.

Вельмі часта ў нашых газетах сустракаюцца такія прыклады:

> **«У панчошнай арцелі старшыня тав. Грос можа САМА без усякіх труднас-**



**цей замяніць ІНСТРУКТАРА па праверцы бракёрства панчох, ЯКОЙ выплачваюць 200 рублёў у месяц».**

Мы ведаем, што слова інструктар — мужчынскага рода, і дапасоўваць так, як гэта робяць у прыведзенай вытрымцы, ні ў якім выпадку нельга, хоць гэтым інструктарам і з'яўляецца жанчына. Трэба было закончыць гэту фразу так: **«якому** выплачваюць 200 рублёў у месяц», або да слова «інструктара» дадаць прозвішча, тады магчыма было-б дапасаванне, зробленае ў прыведзеным прыкладзе.

Часта бываюць ляпсусы і ў дапасаванні складаных сказаў. Асабліва калі дадаены сказ з галоўным злучаецца словам **«які»**. Тут часта справа даходзіць да кур'ёзаў.

Вось прыклад з «Калгасніка Старобіншчыны» (9 верасня):

**«Чырвоны сцяг РК КП(б)Б ад Чырвонадворскага сельсовета адняць, які здаў тэмпы хлебапаставак і асенняй сяўбы».**

Злучальнае слова «які» трэба ставіць адразу пасля таго слова, з якім яно дапасоўваецца. Тады сказ будзе правільным, а сэнс дакладным. А вось у прыведзеным прыкладзе слова «адняць» раздзяліла «які» ад «сельсовета», і можна падумаць, што «які» адносіцца да «сцяг».

Возьмем вытрымку з клімавіцкай **«Комуны»:**

**«Малатарням патрэбен быў вялікі рамонт, а на самай справе яны зусім у рамонце не былі. І ў выніку малатарня ў калгасе «Перамога», які толькі распачалі на ёй малаціць зараз-жа рассыпалася і тады толькі яе пачалі рамантаваць».**

У гэтым сказе слова «які» дапасавалі да «калгас» і ў рэзультаце вышла, што пачалі не збожжа малаціць, а калгас. Тут замест «які» трэба было ўжыць «як». Тады сказ хоць і астаўся-б цяжкім, але затое не было-б такога шкоднага ляпсуса.

Дадаеныя сказы трэба заўсёды аддзяляць ад галоўных коскамі. Гэту ісціну павінны былі-б ведаць работнікі раённых газет. Тым не менш са знакамі прыпынку ў раённым друку не ўсё ў парадку. З прыведзенага ніжэй прыкладу ўбачым, што часамі і коска, калі яе не паставіць на належнае месца, надае сказу непажаданы сэнс:

**«У мінулым годзе рад калгасаў па прапанове райза практыкавалі такі метад падрыхтоўкі бульбы да буртавання: выкапаная спелая бульба, звазілася пад навес, ці заставалася ў полі, калі было добрае надвор'е ў невялікіх кучах» (аршанскі «Ленінскі прызыў»).**

Не паставіўшы пасля слова «надвор'е» коску, газета прыйшла да дзікага сцвярджэння, што бывае «добрае надвор'е ў невялікіх кучах». А слова «бульба» чамусці аддзелена коскай ад «звазілася». Адарвалі дзейнік ад выказніка.

Такіх прыкладаў можна прыводзіць безліч. Усе яны паказваюць, што над мовай у раённых газетах не працуюць, што гэта закінуты ўчастак. Быў-бы змест надзенны, баявы, а з формай увойдзецца як напішаш. Не можа быць разрыву паміж зместам і формай. Над афармленнем, над стылем газеты павінен удумна і крапатліва працаваць кожны газетны работнік.

По пісьмах атрыманых з Германіі на мове эсперанта.

Д. СНЕЖКА

# „Ротэ Фане"—жыве!

«Больш 80 год прайшло з той пары, як марксізм выступіў на арэну. За гэты час дзесяткі і сотні буржуазных урадаў прабавалі знішчыць марксізм. І што-ж? Буржуазныя ўрады прыходзілі і ўходзілі, а марксізм аставаўся» **(Сталін).**

Германскія фашысты ў першыя месяцы свайго панавання хвалліва заяўлялі, што яны «знішчылі марксізм». Цяпер самі фашысты прымушаны прызнаць, што компартыя Германіі жыве, што комуністы прадаўжаюць барацьбу.

Не гледзячы на шалёны фашысцкі тэрор геранчная КПГ мужна стаіць на сваім слаўным пасту. КПГ нястомна мабілізуе рэволюцыйны пролетарыят на барацьбу супроць фашысцкай дыктатуры.

«Не гледзячы на самы жорсткі фашысцкі тэрор,—піша нам рабочы Гамбургскага парта,—комуністычная партыя жыве і працуе. Яе друк у сотнях тысяч экземпляраў даходзіць да рабочых. Кожны раз, чым мацней станавіўся тэрор, тым лепш і адважней працавалі комуністы. Нават начальнік тайнай паліцыі фашысцкай Германії вымушан быў публічна прызнаць, што комуністы вельмі добра ўсвоілі тэхніку нелегальнай работы.

Германскі комуністычны друк добра ўсвоіў урокі пролетарскай рэволюцыі ў Расіі. Вопыт рускага бальшэвіцкага друку значна дапамог нам—комуністам Германії».

Як не лютуюць фашысцкія ахраннікі і тайная паліцыя, але «Ротэ фанэ» — баявы орган КПГ — прадаўжае з выключным гераізмам выконваць вялікія задачы барацьбы супроць фашызма.

«Надрукаваная дробным уборыстым шрыфтам на тоненькай папяроснай паперы «Ротэ Фанэ» акуратна выходзіць у свет і пачынае сваё падарожжа. «Чытайце і перадавайце далей»—так напісана ў загалоўку газеты. І з цэха ў цэх, з рук у рукі, з адной кватэры ў другую перадаецца «Ротэ фанэ». Яе чытаюць з вялікім захапленнем. «Ротэ Фанэ» не адзінокая. Дзесяткі, сотні заводскіх «Ротэ Фанэ» дапамагаюць комуністычнай партыі арганізаваць масы пролетарыяў на барацьбу супроць фашызма, за советы ў Германії».

«Таварыш! Чытач! Памятай, што гэта газета створана за спіной тысяч шпікоў фашысцкай рэакцыі. Чытай яе ўважліва, перадавай яе сваім таварышам рабочым».

«За апошні час,—піша **рабкор з Эссена**—фашысцкі друк выступае з заявамі аб нібы поўнай ліквідацыі беспрацоўя і аб тым, што рабочаму пры гітлераўскім урадзе стала лягчэй і лепш жыць. Наш друк, у асаблівасці «Ротэ Фанэ», выкрывае ашуканства. «Ротэ Фанэ» змяшчае шматлікія пісьмы рабочых, якія на фактах паказваюць, што становішча рабочых пагоршылася. Зарплата германскага пролетарыята зніжана на дзесяткі мільёнаў марак. Апрача таго, розныя падаткі, адлічэнні прымусовага парадку прыводзяць да таго, што рабочы атрымлівае 50-60 проц. сваёй стаўкі. Я асабіста з 53 марак атрымліваю пасля ўсіх адлічэнняў толькі 28,7 маркі.

«Ротэ Фанэ» паказвае жыццё такім, якое яно ёсць: галадаючыя рабочыя, разбурэнне на вёсцы, тэрор. Таму кожны нумар «Ротэ Фанэ»—гэта выбух знарада. Фашызм жорстка распраўляецца з кожным, хто пападзецца пры распаўсюджанні «Ротэ Фанэ».

Рабочыя праяўляюць выключны гераізм пры распаўсюджанні «Ротэ Фанэ».

Добра вядомы факты, калі ў адзін дзень усе вуліцы Берліна былі закіданы зверху лістоўкамі компартыі, і паліцыя доўгі час не магла знайсці, хто гэта зрабіў. Лісткі падалі з паветраных шараў, пускаемых рабочымі. Пакеты праклямацый прывязвалися вяроўкай к шару. Да пакета прывязвалі вату, аблітую падпаленым спіртам. У паветры вяроўка перагарала і праклямацыі раскідваліся ветрам па гораду.

Нумары «Ротэ Фанэ» раскідваліся на гарадской чыгунцы. Вобыскі і арышты не далі рэзультатаў. Лісткі стопкамі ўкладваліся на палатно чыгункі ва ўкромным месцы і праходзячы поезд раскідаў гэтыя лісткі.

«Ротэ Фанэ»,—піша нам рабкор з Гамбурга,—ва ўмовах падполля астаецца вялікай зброяй партыі, калектыўным прапагандыстам, агітатарам і арганізатарам пролетарыята. Фашызм не ў сілах знішчыць «Ротэ Фанэ».

Комуністычны друк Германії адважна прадаўжае сваю вялікую справу барацьбы супроць фашызма.

А. ЦЫПІНА

# Аб чым гаварылі селькоры

10 чэрвеня раённая газета **«Калектывіст»** святкавала свой пяцігадовы юбілей.

К пяцігоддзю свайго існавання газета прышла з поўным актыўным балансам. Пачаць хоць-бы з таго, што першы нумар «Калектывіста» вышаў 10 чэрвеня 1929 года ў 50 экземплярах у выглядзе друкаванай насценнай газеты, а зараз тыраж газеты складае 3.300 экземпляраў. 20 рабселькораў, пераважна з горада—вось актыў газеты ў канцы 1929 года. Зараз вакол «Калектывіста» згрупавана больш 400 рабселькораў—калгаснікаў, рабочых, членаў саматужна-прамысловых арцелей.

3 насценгазеты па ўсяму раёну было ў 1929 годзе. 120 калгасных, 35 брыгадных, 7 соўгасных, 110 школьных насценгазет, 21 насценгазета на прадпрыемствах і ва ўстановах, 4 друкаваныя шматтыражкі (3 соўгасныя і адна леспрамгасаўская) выходзяць у раёне зараз.

70 спецыяльных бюлетэняў (пасеўныя, уборачныя, па дарожнаму будаўніцтву і інш.) выпусціла газета за прайшоўшыя 5 год.

За апошнія два гады «Калектывіст»



Тав. Манулік Алесь — рэдактар насценгазеты калгаса «Чырвоны сцяг», актыўны селькор «Калектывіста»

атрымаў тры граматы: за ўзорную работу ў часе веснавой сяўбы 1932 г., бальшэвіцкую барацьбу за выкананне фінансавага плана раёна ў 1932 г., за мабілізацыю мас працоўных на пабудову шашы Менск—Магілеў.

«Калектывіст» завязаў цесную сувязь з працоўнымі масамі раёна. Гэта



Адзін з старэйшых, актыўнейшых селькораў чэрвеньскай раённай газеты тав. Цярэшка Спарыш

адзначыла «Звязда» ў сваім юбілейным аглядзе газеты. Дзесяткі пісем з калгасаў, арцелей раёна атрымлівае газета штодня.

Шмат зроблена газетай за 5 год. І гэтым заслужана можа ганарыцца «Калектывіст» у свой пяцігадовы юбілей.

Але работнікі «Калектывіста» павінны цвёрда запомніць адно: не зазнавацца, не супакойвацца на дасягнутым, бачыць памылкі і буйныя недахопы ў сваёй рабоце, упарта і штодзенна працаваць над ліквідацыяй гэтых недахопаў. А недахопаў вельмі многа. Іх адзначыла «Звязда» ў сваім аглядзе, іх асабліва ярка паказаў скліканы газетай у дзень юбілея раённы рабселькораўскі злёт.

Ужо адно тое, што на злёт сабралася толькі каля 90 рабселькораў, гаворыць аб тым, што рэдакцыя «Калектывіста»

дрэнна падрыхтавала злёт. Самы змест работы злёта не адпавядаў тым задачам, якія ставяцца перад рабселькораўскімі злётамі. І вінаваты ў гэтым не селькоры (а яны паказалі выключную зацікаўленасць да ўсяго, што гаварылася на злёце), а сама рэдакцыя газеты, якая паставіла перад сабой задачу «накачаць селькораў», як заявіў рэдактар «Калектывіста» т. **Пыко.** У гэтым сэнсе задача, пастаўленая рэдакцыяй, была ажыццёўлена: селькораў «накачалі» па ўсіх асноўных гаспадарча-палітычных кампаніях.

А вось перадачы вопыта работы саміх рабселькораў, нізавых газет, крытыкі недахопаў, памылак, якія ёсць у рабоце многіх калгасных газет, гэтага на злёце не было. Не была нават арганізавана выстаўка нізавога друку раёна, бо нельга-ж лічыць выстаўкай 4 насценгазеты, якія былі вывешаны ў файе Дома соцыялістычнай культуры, дзе адбываўся злёт.

Першае, што паказаў рабселькораўскі злёт,—гэта слабасць нізавога друку ў раёне.

Вось газета **«Калгасная хваля»** (калгас «Чырвоны сцяг»). Рэдактар гэтай газеты т. **Манулік Васіль** сам вельмі многа робіць у калгасе, і робіць напорыста. Узімку ён быў адказным за лесавывазку. і калгас у тэрмін вывез 800 кубаметраў драўніны. З пачатку ўборачнай т. Мануліка вызначылі адказным за выкананне дзяржаўных паставак і загатовак. І калгас яшчэ ў жніўні выканаў план здачы хлеба дзяржаве, выканаў ужо і пастаўкі бульбы. Асталося выканаць план ільнозагатовак. І т. Манулік горача ўзяўся за гэту справу. Ён не толькі арганізоўвае работу па апрацоўцы і здачы ільноваланка, але сам паказвае, як трэба мяць, трапаць, вязаць, каб здаць дзяржаве высокаякасны лён. Тав. Манулік з гонарам расказвае, як зараз ён усё часцей чуе ад калгаснiц, працуючых на ільне: «Васіль, зайдзі, паглядзі якасць нашай работы».

Усё гэта работа Васіля Мануліка, як сумленнага калгасніка. А вось насценгазета, якую ён рэдагуе, выходзіць толькі раз у 10 дзён (не гледзячы на тое, што ёсць сем членаў рэдкалегіі: 5 калгаснікаў і 2 настаўнікі), у газету пішуць мала—5-6 калгаснікаў. «Баяцца пісаць, парушыць добрасуседскія адносіны»—заяўляе т. Манулік. Ён не ведае, як яму арганізаваць работу рэдкалегіі, прыцягнуць да работы ўсіх яе членаў, як зрабіць газету больш аператыўнай.

Або возьмем насценгазету калгаса «Новая пабудова». Вось што расказвае яе рэдактар т. **Туміловіч.** «Газета арганізавана ў 1932 г. І гэты год яна працавала слаба. У 1933 г. газета амаль зусім не выходзіла. У 1934 г. неяк ажывілі работу газеты. Калгаснікі пісалі, але рэагавання не было, з раёна мер таксама не прымалі, і газета зноў не выходзіла. 20 дзён назад перавыбралі рэдкалегію. Газета зараз выходзіць раз у 5 дзён, але рэагавання на выступленні газеты і зараз няма».

Селькор з калгаса «Раванічы» **Казёл Уладзімір** расказаў на злёце, што ўвесь год насценгазета ў калгасе амаль не выходзіла. Зараз перавыбралі рэдкалегію, але «Матэрыялаў няма. Баяцца пісаць у газету».

«Мала пішуць калгаснікі ў насценгазеты, баяцца пісаць, на заметкі не рэагуюць»—вось асноўнае, аб чым гаварылі селькоры ў сваіх выступленнях.

Пытанне рэагавання на рабселькораўскія заметкі і пісьмы працоўных у газету—самае набалелае ў рабоце чэрвеньскай раённай газеты і нізавога друку. Вось чаму гэта пытанне было лейтматывам усіх выступленняў на раённым злёце.

«Рукі не падымаюцца пісаць»—заяўляе т. Казёл з калгаса «Раванічы» і прыводзіць абураючыя факты з практыкі работы раённай міліцыі, зназваўшай сур'ёзныя сігналы селькораў аб становішчы ў калгасе, з работы райсуда, які цэлы год марынуе справу аб кулацкай падрыўной рабоце ў калгасе.

Ці ўзяць выступленне т. **Кланьева,** які расказаў на злёце, як у Даманаўіцкім сельсовеце анулююць усе дасланыя на расследванне селькораўскія заметкі.

У калгасе «Чырвоны Гарадок» вясною рэгулярна выходзіла насценгазета. А зараз газета не выходзіць. Прычыны —зажым самакрытыкі, ганенне на селькораў. Аб гэтым заявіў на злёце рэдактар гэтай газеты т. **Неборскі.**

«Была заметка аб дрэнным доглядзе цялят,—расказвае т. Неборскі.—Ніякіх мер не прынялі. А зараз мне пагража-

юць забойствам. Я больш не пішу, баюся. Каб лепш працавала газета, трэба рэагаваць на заметкі, даводзіць справу да канца».

У гэтым тав. Неборскі праў. Але не праў у тым, што апусціў рукі, кінуў пісаць. І за гэта ён атрымаў рашучую водпаведзь на злёце. «Трэба, каб не мы баяліся кулака, а каб ён нас баяўся»— заявіў т. Казёл у адказ на выступленне Неборскага.

Выступіўшы на злёце раённы пракурор нарысаваў яркую карціну становішча з рэагаваннем у раёне.

Пракуратура разам з рэдакцыяй газеты і «лёгкай кавалерыяй» правяла рэйд праверкі рэагавання раённых арганізацый на рабселькораўскія заметкі і пісьмы рабочых і калгаснікаў. 2 дні хадзілі ўдзельнікі рэйда ў райза, а работнікі райза пад усякімі прадлогамі адмахваліся ад праверкі. Толькі пасля сур'ёзнага ўмяшання пракурора рэйдавай брыгадзе далі адпаведны матэрыял для праверкі.

Што-ж выявіла брыгада? З 58 заметак, прысланых у райза на рэагаванне, тры згублены, тры не расследваны «з-за адсутнасці работнікаў», на 36 заметак не дана ніякага адказу. Рэдакцыя газеты ўпэўнівае, што заметкі ў райза былі дасланы, а райза цвердзіць, што не атрыманы гэтыя 36 заметак. А ў гэтых заметках пісалася аб падрыўной рабоце кулакоў у калгасах, аб недасеве, аб раскрадванні калгаснай маемасці. І вось такія надзвычай важныя заметкі бюракраты з райза невядома дзе згубілі.

Яшчэ горш у райміліцыі. Там змазваюць, зводзяць на нішто важнейшыя справы, узнімаемыя селькорамі ў заметках і пісьмах. Райпракурор прыводзіў проста абураючыя факты, калі з аднаго калгаса на працягу 2-х месяцаў былі тры сур'ёзнейшыя сігналы аб шкодніцкай рабоце, а міліцыя, правёўшы «следства», справу спыніла. І толькі пасля чацвертага сігнала, калі на месца выехаў следчы райпракуратуры, у калгасе была ўскрыта контррэвалюцыйная работа.

Па сігналах «Калектывіста» ўскрыта засмечанасць у апараце райканторы Белплодагародніны: старшыня канторы, былы буйны гандляр, намеснік яго—буйны гандляр, трэці работнік—таксама гандляр, чацверты — сын паліцэйскага. Газета выкрыла гэтых людзей, але справу да канца не давяла. Гэтыя людзі і зараз працуюць у апараце Белплодагародніны.

Гэта толькі некалькі найбольш характэрных фактаў з становішча з рэагаваннем на рабселькораўскія заметкі ў раёне. Адсюль і слабасць работы нізавога друку, адсюль і падаўлены настрой у часткі селькораў: «пісаць нечага, рукі апускаюцца».

Хто вінават у такім становішчы? У першую чаргу **раённы камітэт партыі, які ліберальнічае з глушыцелямі крытыкі і самакрытыкі,** ігнаруючымі заметкі рабселькораў і пісьмы працоўных. **Вінават і райпракурор,** да гэтага часу не прыцягнуўшы да суровай адказнасці бюракратаў, глушыцеляў самакрытыкі з райза, міліцыі і інш.

І больш за ўсё **вінавата сама рэдакцыя раённай газеты,** якая не ставіла з усёй рашучасцю гэтага пытання, не дабівалася неадкладнага і вычэрпваючага рэагавання на свае матэрыялы, не даводзіла ўзнімаемых пытанняў да канца.

І ў гэтым асноўны і буйнейшы недахоп газеты, які рэдакцыя «Калектывіста» павінна сур'ёзна ўлічыць, падводзячы вынікі работы за 5 год. Рыхтуючыся да 3-га ўсебеларускага з'езда рабселькораў, рэдакцыя «Калектывіста» павінна асноўны ўпор зрабіць на ўмацаванне нізавога друку, на рэагаванне на рабселькораўскія заметкі і пісьмы рабочых і калгаснікаў.

Інакш уся работа газеты, уся падрыхтоўка да рабселькораўскага з'езда будзе зведзена на нішто.



А. МАТУСЕВІЧ

# БАЯВАЯ ПРАВЕРКА ПАЧАЛАСЯ

Актыўны селькор і рэдактар калгаснай насценгазеты тав. **Корбут** ужо тры дні працуе па ўкамплектаванню калгаснай фермы. 29 верасня рэдактар раённай газеты **«Шлях соцыялізма»** атрымаў ад яго тэрміновае пісьмо:

**«Тав. Зуевіч! Абавязацельствы, узятыя мной па падрыхтоўцы да раённага злёта рабселькораў, выкананы. Прышоў з праўлення калгаса і пішу пра вынікі. Я ставіў задачай зняць з калгаса «Чырвоны завод», членам якога я з'яўляюся, пляму. Аб гэтым 23 верасня гаварыў на агульным сходзе інструктар райвз тав. Чыкілёў. Гаварыў у маёй прысутнасці і было вельмі няпоўка што дагэтуль ферма недаўкамплектавана маладняком».**

Селькор-ударнік і рэдактар насценгазеты бярэцца за канкрэтную справу. Тры дні працуе ён у якасці закупшчыка цялят для калгаснай фермы. Цяляты закуплены. Тады тав. Корбут бярэцца за пытанні будаўніцтва. Не хапае саломы каб накрыць страху кароўніка. Рэдактар насценгазеты мабілізуе «ўнутраныя рэсурсы»: што ў калгаснікаў дасталі, што купілі, а што пазычылі. І кароўнік накрыт новай страхой, ацеплен на зіму.

Расказаў пра ўсё гэта на раённым злёце рабселькораў рэдактар жлобінскай газеты тав. **Зуевіч.** Злёт, на які з'ехалася і сышлося з усяго раёна 130 лепшых рабкораў і селькораў, выслухаў невялічкае выступленне рэдактара раённай газеты, даклад намесніка сакратара райкома партыі тав. **Фрыдзона** аб чарговых задачах нізавога друку і селькораў.

Але галоўны ўпор на злёце быў зроблен на абмен вопытам работы. З дакладамі выступілі тав. **Самусевіч**—рэдактар насценгазеты калгаса **«Серп і молат»**, тав. **Мілейка**—рэдактар штодзеннай насценгазеты старэйшага ў раёне калгаса **«Рассвет-пераможца»**.

Злёт намеціў канкрэтны план работы, далейшай падрыхтоўкі да ўсебеларускага з'езда рабселькораў. Кожны рабселькор абавязаўся асабіста сабраць не менш 300 рублёў па абавязковых плацяжах. Кожная рэдкалегія насценгазеты арганізуе работу па закупцы не менш адной тоны хлеба, дапамагае свайму ці суседняму калгасу ацяпліць і падрыхтаваць к зіме 1—2 хлявы.

---

Праведзены раённай і палітаддзельскай газетамі злёт—толькі частка мерапрыемстваў па падрыхтоўцы нізавога друку і рабселькораў Жлобінскага раёна да 3-га Ўсебеларускага з'езда. Да раённага злёта праведзены **злёты рабселькораў у 21 сельсовеце.** На большасці злётаў рэдакцыя раённай газеты рабіла справаздачу аб сваёй рабоце з пісьмамі рабселькораў.

Змяшчаючы сістэматычна агляды нізавых газет, паказваючы работу лепшых рабселькораў, рэдакцыі раённай і палітаддзельскай газет арганізоўвалі тым самым работу нізавых газет. Раённая газета ўвяла на сваіх старонках спецыяльны аддзел **«Па старонках калгасных насценгазет»**, у якім перадрукоўвае асобныя заметкі з калгасных насценгазет. Гэта ўзнімае аўтарытэт нізавой газеты, дапамагае яе росту.

Рэдакцыяй раённай газеты выданы і разасланы ў дапамогу рэдкалегіям нізавых калгасных насценгазет тры макеты. Апошні макет **«За пяршынства»** спецыяльна прысвечан падрыхтоўцы да 3-га Ўсебеларускага з'езда рабселькораў.

Значную работу па падрыхтоўцы да Ўсебеларускага з'езда рабселькораў праводзіць палітаддзельская газета **«Чырвоны трактарыст»**. Газета змагаецца за прасоўванне лепшых селькораў-ударнікаў на кіруючую работу ў калгасах. Лепшы селькор **Ігнат Гузаў** узят на работу ў МТС, 35-гадовая селькорка **Ляснеўская** выбіраецца старшынёй калгаса **«Маяк»**, **Малевіцкага сельсовета,** селькор **Громаў** з калгаса **«12-годдзе Окцябра»** вылучаецца інспектарам па якасці, селькорка **Старастава**—калгасным брыгадзірам, а **Кавалькова Ўліта**—селькорка калгаса **«Серп і молат»**—адказнай за лён і намеснікам старшыні калгаса.

Асобныя селькоры паказалі ўжо ўзоры большэвіцкага выканання ўзятых да раённага злёта абавязацельстваў. Тав. **Корбут**—рэдактар насценгазеты калгаса **«Чырвоны завод»,** убачыўшы, што сельсовет ганебна адстае з выкананнем фінплана, сам узяўся за збор сродкаў і **за два дні сабраў 900 рублёў розных плацяжоў.**

Заслугоўвае выключнай увагі і вопыт работы селькораў калгаса **«Перамога».** Старшынёй гэтага калгаса быў падкулачнік **Шэўчук.** Увесну, калі яшчэ не быў выканан план сяўбы, ён адмовіўся садзіць бульбу таму, што «не было насення». За справу ўзяліся селькоры. Калгасніца, селькорка **Феламетава** разам з трыма другімі селькорамі пашла па дварах калгаснікаў, правяла гутаркі і **на працягу аднаго дня было сабрана каля 1.000 пудоў насеннай бульбы. На другі-ж дзень бульба была пасаджана, план быў выканан, а выкрыты падкулачнік Шэўчук зняты з работы і аддан пад суд за сабатаж сяўбы. Старшынёй калгаса была абрана актыўная селькорка, старая калгасніца Феламетава.**

Нядаўна па ініцыятыве селькораў — аднаасобнікаў 79 працоўных аднаасобнікаў Салонскага сельсовета ўступілі ў калгас. Старшынёй новаарганізаванага калгаса абраны селькор **Дзяружэнка.**

79 новых калгаснікаў напісалі ў палітаддзельскую газету «Чырвоны трактарыст» пісьмо з заклікам да ўсіх працоўных аднаасобнікаў раёна «яшчэ раз абмеркаваць свой далейшы лёс і ўступіць у калгасы». Пісьмо гэта, напісанае ў палітаддзельскую газету па ініцыятыве селькораў, падпісалі разам з другімі і селькоры—былыя аднаасобнікі: **Півадло, Дзяружэнка, Татарынаў.**

На пісьмо 79 былых аднаасобнікаў рэдакцыя палітаддзельскай газеты атрымала многа водгукаў. 10 аднаасобнікаў вёскі Галы, Кароткаўскага сельсовета, 11 аднаасобнікаў пасёлка «Казёл» адказалі ўжо на гэта пісьмо сваім уступленнем у калгасы.

---

Барацьба за дзейснасць селькораўскага пісьма, работа з пісьмамі працоўных —адна з умоў паспяховай падрыхтоўкі да з'езда рабселькораў. І сюды рэдакцыі раённай і палітаддзельскай газет накіроўваюць сваю ўвагу.

Для большай сувязі з рэдактарамі нізавых газет і селькорамі рэдакцыя раённай газеты разбівае сельсоветы раёна на групы. Да кожнай групы прымацоўвае асобнага работніка, які нясе персанальную адказнасць за становішча ў даных сельсоветах работы з нізавым друкам і селькорамі.

Але зроблена яшчэ не ўсё. Перад партыйнай арганізацыяй і рэдакцыямі раённай і палітаддзельскай газет стаіць задача далейшага ўмацавання свайго кіраўніцтва нізавым друкам і селькорамі.

Неабходна дабіцца дакладнага ўліку нізавых газет, іх рэгулярнага выхаду без «прагулаў», ахапіць марксісцка-ленінскай вучобай усіх селькораў раёна.

Неабходна яшчэ раз праверыць, **як асабіста кожны рабселькор і рэдкалегія нізавой газеты выконваюць узятыя на раённым злёце самаабавязацельствы, як яны на практыцы змагаюцца за месца на Ўсебеларускім з'ездзе рабселькораў.**

✦ ✦ ✦

Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся

УСІМ СТАРШЫНЯМ, ПАРТОРГАМ, БРЫГАДЗІРАМ ПАЛЯВОДЧЫХ БРЫГАД, АДКАЗНЫМ ПА ІЛЬНУ, ЗВЕНАВЫМ ПА СУШЦЫ, МЯЦЦЮ І ТРОПЦЫ ІЛЬНА КАЛГАСАЎ ЗОНЫ ДЗЕЙНАСЦІ АСВЕЙСКАЙ МТС

Вопыт Сянно—Калгасам Асвейскай МТС

ВЫДАННЕ ПАЛІТАДДЗЕЛА АСВЕЙСКАЙ МТС

1934 ГОДА

**Палітаддзел Асвейскай МТС выдаў і разаслаў ва ўсе калгасы брашуру «Вопыт Сянно — калгасам Асвейскай МТС». Брашура папулярызуе лепшы вопыт ільнаводаў Сенненшчыны.**

З. ХАНІН

рэдактар газеты палітаддзела Аршанскай МТС.

# Масы уключаюцца у падрыхтоўку

Падрыхтоўка да з'езда рабселькораў БССР у раёне дзейнасці **Аршанскай** МТС набывае ўсё больш і больш размах. У падрыхтоўку ўключыліся і актыўна вядуць яе работнікі насценгазет, калгаснікі-ўдарнікі і ўдарніцы, настаўнікі



**Насценгазета калгаса «Шлях советаў», прысвечаная злёту селькораў**

і аграномы, работнікі сельсоветаў і каапаратары, комсамольцы і піонеры, асоавіяхімаўцы.

Мы распачалі падрыхтоўку да з'езда адразу-ж пасля надрукавання пастановы ЦК КП(б)Б.

На сходзе партарганізацыі МТС была пастаўлена задача—уцягнуць у падрыхтоўку да з'езда ўсіх калгаснікаў і калгасніц, дабіцца выпуску ў кожным калгасе і ў кожнай брыгадзе баявой насценгазеты, дабіцца росту рабселькораў і павышэння іх актыўнасці ў правядзенні гаспадарча-палітычных задач.

Нашы калгасы ў гэтым годзе паказалі большэвіцкія ўзоры работы. Пачынаючы з веснавой сяўбы, раён трымае сцяг першынства па ўсіх відах работ. Уборку зернавых скончылі 10-га жніўня. К гэтаму-ж часу выканан гадавы план хлебапаставак усімі калгасамі па ўсіх зернавых культурах. Сяўба азімых закончана 28 жніўня, а зараз завяршаецца выкананне плана бульбапаставак.

Ў заваяванні гэтых большэвіцкіх перамог выключна вялікую ролю адыгралі нізавы брыгадны і калгасны друк і рабселькоры, якія вядуць неаслабную штодзенную барацьбу за першынства іх брыгад і калгасаў.

Насценгазета калгаса **«Чырвоныя Яромкавічы»** (рэдактар т. **Фралоў Кузьма**) нямала садзейнічала росту ўдарніцтва ў гэтым калгасе. Умелым паказам работы лепшай брыгады свайго калгаса, яе брыгадзіра т. Франкова, насценгазета дапамагла падняцца на ўзровень перадавых астатнім брыгадам калгаса. І ў выніку ўвесь калгас адным з першых завяршыў свой гаспадарчы год.

Газета **«Наперад»** калгаса **«Новы быт»** (рэдактар т. **Астапенка)** выкрыла лодыраў і прагульшчыкаў у калгасе, яна выявіла прычыны дрэннай работы брыгады Прыщца. Рэдкалегія насценгазеты часта праводзіць рэйды з шырокім удзелам калгаснікаў. Насценгазета **«Наперад»** карыстаецца вялікай пашанай і любоўю калгаснікаў.

Насценгазета **«Ударнік калгасных палёў»** калгаса **«16 партз'езд»** Панізоўскага сельсовета (рэдактар т. **Шчарбоў**) адзначаецца сваёй арганізатарскай работай па ўкараненню соцыялістычных метадаў работы. Газета з'явілася ініцыятарам правядзення ўнутрыкалгаснага конкурса на лепшую брыгаду і звяно па правядзенню ўборкі без страт. Вакол газеты групуюцца дазорнікі калгаснага



**За выпускам калгаснай газеты. (Калгас «Верны шлях»).**

ўраджаю, інспектары якасці, адказныя за лён і лепшыя калгаснікі-ўдарнікі.

Можна прывесці і такую газету, як **«Голас калгасніка»** калгаса **«Чырвоныя ўсходы,** Баранскага сельсовета (рэдактар т. **Бацюкоў Іван**), якая ўсебакова асвятляе ўсе працэсы калгаснай вытворчасці. Пасты селькораў гэтай насценгазеты заўсёды знаходзіліся на тых участках, дзе рашаўся лёс пяршынства гэтага калгаса.

Спіс такіх газет перадавікоў можна значна прадоўжыць, але і паданых прыкладаў даволі, каб паказаць, што калгасны друк становіцца ў раёне дзейнасці нашай МТС магутным рычагом у барацьбе за бальшэвіцкія калгасы, за заможнае калгаснае жыццё.

Нядаўна ў калгасах зоны МТС праведзен палітдзень, прысвечаны пытанням з'езда і рабоце насценгазет. Палітдзень значна ажывіў работу насценнага друку, павялічыў лік селькораў насценгазет і палітаддзельскай газеты. Цяпер ужо рэдка пачуеш скаргу калгаснага рэдактара на недахват матэрыялаў для насценгазеты. Такія калгасы, як «Чырвоныя ўсходы» і «Чырвоныя Яромкавічы» блізкі да вырашэння задачы «кожны рабселькор—ударнік, кожны ўдарнік—рабселькор».

Работай насценгазет пачалі цікавіцца і сельскія советы. Праведзены пленумы некалькіх сельсоветаў, прысвечаныя пытанням падрыхтоўкі да з'езда рабселькораў БССР. Перадавы Баранскі сельсовет на сваіх паседжаннях слухаў даклады рэдактароў насценгазет. Прыкладу Баранскага сельсовета следуюць іншыя сельсоветы.

Цяпер у нас праводзіцца агляд-праверка работы насценгазет. Праверкай кіруюць палітаддзел, партарганізатары пры актыўным удзеле актыва сельсоветаў і, у першую чаргу, настаўніцтва.

Добра садзейнічалі абмену вопытам паміж насценгазетамі праведзеныя сельсовецкія злёты селькораў. Выступленні рэдактароў і селькораў, выстаўкі брыгадных і калгасных газет на гэтых злётах і масавы ўдзел у злётах калгаснікаў, настаўніцтва, работнікаў сельпо яшчэ больш згуртавалі калгасны актыў вакол насценгазет, узнялі іх ролю.

Гэтымі днямі праведзен злёт селькораў калгасаў зоны МТС. На злёце прынялі ўдзел 153 лепшых селькораў-ударнікаў. Яны прышлі на злёт з багатым вопытам. На злёце была арганізавана выстаўка насценгазет нашых калгасаў.

Газета палітаддзела МТС **«За бальшэвіцкія калгасы»** сістэматычна дапамагае насценгазетам, рэгулярна друкуе агляды насценгазет. Вакол палітаддзельскай газеты вырас вялікі актыў селькораў. Яшчэ нядаўна ў палітаддзельскую газету пісалі лічаныя селькоры. Цяпер у нашай газеце ўдзельнічаюць **200 селькораў.** Толькі за апошнія два месяцы мы атрымалі **358 селькораўскіх пісем.**

Асноўны ўпор у нашай далейшай рабоце па падрыхтоўцы да ўсебеларускага з'езда мы робім на арганізацыю сістэматычнай вучобы селькораў у палітшколах і семінарах пры сельсоветах і калгасах. У бліжэйшы час пры палітаддзеле МТС адкрываем габінет селькора, у якім селькор і калгасны рэдактар знойдзе ўсё для дапамогі ў сваёй рабоце.

**Я. ЭСТЭРКІН**

# БЕЗАДКАЗНАСЦЬ У АДКАЗНЕЙШАЙ СПРАВЕ

Машыністка рэдакцыі газеты **«Комунаравец»** скардзіцца на вялікую нагрузку.

«Кожны дзень прыходзіцца амаль 5-6 газет друкаваць. Вось сёння я ўжо выпусціла падвойны нумар газеты для ліцейнага цэха, адну газету для канторы, адну для кавальскага цэха і адну для слясарна-зборачнага. І яшчэ прынясуць. Учора я апрацавала і надрукавала газеты для сталовай і слясарна-механічнага цэха».

Так выпускаюцца цэхавыя газеты на менскім заводзе «Комунар». Рэдактар заводскай газеты «Комунаравец» тав. **МАРОН** устанавіў наступны парадак.

Рэдкалегіі збіраюць матэрыялы і прыносяць іх спецыяльнаму работніку, які працуе ў рэдакцыі «Комунараўца». Раз, два і гатова. Пяць, шэсць насценных газет ёсць, як на далоні. А развесіць іх гэта ўжо зусім лёгкая справа.

Так «кіруе» нізавым друкам газета «Комунаравец».

Рэдкалегіі цэхавых і брыгадных газет ператвораны ў зборшчыкаў матэрыялаў. Рабкоры, рабочыя-ўдарнікі не прыцягнуты да непасрэднага выпуску газет. Рабкораўскага актыва няма. Не дзіва, што падрыхтоўка да ўсебеларускага з'езда рабселькораў па заводзе не разгорнута.

Рэдактар насценгазеты слясарна-механічнага цэха тав. **Рытэнбанд** прама заяўляе:

— Аб усебеларускім з'ездзе рабселькораў і не гаварылі. Ніякай работы сярод рабкораў не праводзяць, на заметкі ў насценгазеце амаль не рэагуюць.

Тое-ж самае гаворыць рэдактар насценгазеты ліцейнага цэха тав. **Шагідзевіч.**

Становішча зразумелым, чаму на заводзе, дзе працуе 900 чалавек рабочых, ёсць толькі 80 рабкораў.

Як «Комунаравец» асвятляе на сваіх старонках пытанні прадз'ездаўскай падрыхтоўкі?

27 жніўня рэдакцыя «Комунараўца» змяшчае перадавы артыкул «Падрыхтоўку да ўсебеларускага з'езда рабселькораў правядзем узорна».

У артыкуле ставяцца задачы:

**«Шырока разгарнуць крытыку работы ўсіх звенняў завода, своечасова сігналізуючы і папярэджваючы факты пагрозы зрыву пастаўленых перад заводам задач».**

Так зразумела рэдакцыя газеты «Комунаравец» сваю ролю ў падрыхтоўцы да з'езда рабселькораў. «Комунаравец» заклікае рабкораў толькі сігналізаваць, а не змагацца за тое, каб сустрэць з'езд канкрэтнымі справамі, паказваць і пяром і асабістым прыкладам, як трэба змагацца за промфінплан, за якасць прадукцыі.

У далейшым аб падрыхтоўцы да ўсебеларускага з'езда рабселькораў «Комунаравец» нават не ўспамінае.

На заводзе было некалькі фактаў зрыву цэхавых газет. «Комунаравец» не мабілізуе грамадскай думкі, не выкрывае зажымшчыкаў самакрытыкі, а толькі мімаходам канстатуе:

**«Ёсць рад фактаў, як зрыў газет. Ва ўсіх выпадках не выяўлена, хто зрывае газеты».**

Аб палітычнай блізарукасці «Комунараўца» сведчыць і наступны факт. Рэдактар газеты заводскай канторы скарыстаў газету ў сваіх асабістых мэтах.

«Комунаравец» не дае ніякай палітычнай ацэнкі гэтаму факту, а абмяжоўваецца заўвагай аб тым, каб справай заняўся заводскі камітэт.

Вывады напрошваюцца самі. На заводзе «Комунар» не рыхтуюцца да рабселькораўскага з'езда. Кіраўніцтва нізавым друкам, кіраўніцтва рабкорамі, іх вучобай—няма. У гэтым віна не толькі газеты «Комунаравец». За такое становішча перш за ўсё нясе адказнасць партком фабрыкі.

# Зімовы час прысвецім вучобе

Падрыхтоўка да з'езда рабселькораў унесла вялікае ажыўленне ў работу селькораў і насценгазеты калгаса імя **Леніна (Любаньскі раён).**

Атрымалі пісьмо рэдакцыі журнала «Большэвіцкі друк» аб з'ездзе рабселькораў. Рэдкалегія разам з пярвічнай комсамольскай арганізацыяй сабрала ўсіх селькораў калгаса, прачыталі і добра абмеркавалі пісьмо. Наметалі канкрэтныя мерапрыемствы ў далейшай рабоце.

Вялікую ўвагу ў зімовы час мы мяркуем звярнуць на вучобу селькораў. Арганізавалі ў калгасе палітгурток, у якім будзем вывучаць пытанні бягучай палітыкі і літаратуру аб рабоце насценгазет і рабселькораў. Некаторыя кніжкі ў нас ужо ёсць, частку літаратуры набудзем у рэдакцыі раённай газеты, а частку выпішам. Усе матэрыялы з'езда рабселькораў прапрацуем безумоўна, у першую чаргу.

Не хвалячыся, можам заявіць, што наша калгасная насценгазета **«Штурмоўка»** ў апошні час дабілася вялікіх поспехаў. Яна змагалася за выкананне калгасам усіх гаспадарча - палітычных кампаній і

перш за ўсё — абавязкаў перад пролетарскай дзяржавай. З вялікай дапамогай селькораў і насценгазеты калгас датэрмінова выканаў усе віды дзяржаўных паставак і загатовак, датэрмінова скончыў сяўбу і цяпер з поспехам разгортвае продаж хлеба спажыўкааперацыі.

Нельга параўнаць цяперашніх нумароў нашай «Штурмоўкі» з нумарамі, выпушчанымі некалькі месяцаў назад. Якая розніца ў якасці матэрыяла, у афармленні!

Першыя нумары «Штурмоўкі» нагадваюць сабою дрэнна запісаны пратакол. Шэрыя, нудныя старонкі... Але вось ужо колькі часу, як завялі мы ў нашай «Штурмоўцы» карыкатуры, малюнкі. Пішам насценгазету разборчыва, чыста. Заметкі большай часткай кароткія, добра складзеныя.

Праўда, усё гэта нам не лёгка далося. Над афармленнем кожнага нумара сядзім не менш двух вечароў. Але затое на нашу насценгазету цяпер люба паглядзець.

Самі бачым, што калгаснікі сталі цяпер больш цікавіцца «Штурмоўкай». Хто ні прыдзе ў праўленне калгаса, не міне насценгазеты, абавязкова падыдзе і пачытае. Многія новыя калгаснікі пачалі пісаць у насценгазету. К усебеларускаму з'езду даб'емся таго, што кожны ўдарнік нашага калгаса будзе селькорам «Штурмоўкі».

**Калгас імя Леніна, Любаньскі раён.**

**Рэдактар «Штурмоўкі» М. ВАЛУЙ.**

# Па ініцыятыве селькораў-ударнікаў

Ва ўсіх калгасах **Горскага** сельсовета (**Горацкі** раён) рэгулярна выходзяць насценгазеты. Работа насценгазет і рабсселькораў асабліва ўзмацнілася зараз у сувязі з падрыхтоўкай да Ўсебеларускага з'езда рабселькораў.

Пастанова Бюро ЦК КП(б)Б аб з'ездзе, зварот рабкораў завода імя Варашылава добра прапрацаваны ва ўсіх калгасах сельсовета. У калгасах селькоры не абмежаваліся толькі прапрацоўкай гэтых матэрыялаў, але і намецілі канкрэтныя мерапрыемствы па падрыхтоўцы да з'езда.

Наш сельсовет, як і ўвесь Горацкі раён **ільнаводчы**. Мы павінны своечасова выканаць план ільнозагатовак **высокаякасным ільном.** Барацьбу за высокаякасную ільнопрадукцыю для пролетарскай дзяржавы нашы селькоры і паставілі зараз у цэнтры ўсёй сваёй работы па падрыхтоўцы да з'езда.

Што мы практычна робім? Мы дабіліся перш за ўсё, што ў кожным калгасе сельсовета рэгулярна выходзіць насценгазета. Па сельсовету арганізаваны і працуюць 8 рабселькораўскіх сігнальных пастоў на ўсіх буйных ільноапрацоўчых пунктах.

Рабселькораўскія пасты праводзяць вялікую работу. Штодня **на кожным пункце выпускаецца невялікая насценгазета, прысвечаная ходу апрацоўкі ільну і выканання ільнозагатовак.** Да выпуску насценгазет прыцягваюцца калгаснікі і калгасніцы, працуючыя на пункце.

9-га верасня па ініцыятыве рабселькораў арганізован сельсовецкі **чырвоны абоз з ільном імя ўсебеларускага з'езда рабселькораў.** Дзяржаве здана абозам 20 цэнтнераў ільновалакна якасцю не ніжэй 10 нумара.

Рад калгасаў сельсовета ўжо выканалі гадавы план ільнозагатовак (імя Сталіна, «Першамайскі»). Тут асабліва добра працавалі насценгазеты і пасты.

Зараз наша ўвага звернута на адстаючыя калгасы ў ільнозагатоўках. Сюды накіроўваюцца брыгады лепшых ударнікаў з калгасаў-перадавікоў. У бліжэйшыя дні мяркуем завяршыць ільнозагатоўкі па ўсяму сельсовету.

**ЯЗ. КЕЙГЕЛЕС.**

**Горацкі раён.**

# Падрыхтоўкай да з'езда не займаюцца

Дрэнна праходзіць падрыхтоўка да з'езда рабселькораў у **Лельчыцкім** раёне.

Тлумачыцца гэта тым, што ні райком партыі, ні палітаддзел МТС, ні раённая газета не ўзяліся як належыць за гэту важнейшую справу. Толькі **20 верасня** райком і палітаддзел знайшлі магчымым першы раз абмеркаваць пытанне аб падрыхтоўцы да з'езда і становішча работы з рабселькорамі ў раёне.

Між тым у гэтай галіне ў раёне далёка не ўсё ў парадку. Вельмі дрэнна пастаўлена рэагаванне на дапісы працоўных, змешчаныя ў раённай і палітаддзельскай газетах, а таксама пасланыя на рэагаванне. Не рэагаваць і не адказваць на прысланыя заметкі лічыцца ў парадку рэчаў у большасці лельчыцкіх раённых арганізацый.

Горш за ўсё рэагаванне пастаўлена ў райза (заг. т. Чарвякоў). З прысланых у райза 18 дапісаў расследаваны толькі 2, астатнія валяюцца дзе папала, многія патубіліся. Райком камсамола не адказаў ні на адзін допіс, прысланы рэдакцыяй газеты «Калгаснік на варце».

Да вінаватых у такіх агідных адносінах да рабселькораўскіх дапісаў ніякіх мер не прымаюць ні райком партыі, ні райпракурор. **Між іншым сам райком ужо некалькі месяцаў трымае не расследаванымі 3 дапісы, РВК замарынаваў 7 дапісаў.**

Нічога не робіць па падрыхтоўцы да з'езда і раённая газета **«Калгаснік на варце»**. Рэдакцыя абмежавалася тым, што надрукавала пастанову бюро ЦК аб з'ездзе і некалькі заметак. У трох-чатырох калгасах работнікі рэдакцыі правялі сходы селькораў. Селькоры ўзялі на сябе самаабавязацельствы. Але на гэтым справа і спынілася. Праверкай выканання самаабавязацельстваў рэдакцыя не займаецца.

**Амаль ніякай работы па падрыхтоўцы да з'езда не праводзіць** газета палітаддзела МТС **«Ленінскі шлях»** (рэдактар тав. **Скурат**). Уся яе «работа» ў гэтым напрамку зводзіцца да надрукавання пастановы Бюро ЦК. У калгасах, абслугоўваемых МТС, выходзіць **толькі 12 насценгазет**. Ужо адна гэта мізэрная лічба гаворыць аб рабоце газеты «Ленінскі шлях».

У Лельчыцкім раёне па заявах рэдактароў раённай і палітаддзельскай газет выходзяць 52 калгасныя насценгазеты. Так лічыцца на паперы. Як працуюць гэтыя 52 насценгазеты, хто імі кіруе, якія патрэбы маюць насценгазеты—гэтага рэдакцыі не ведаюць і не імкнуцца ведаць.

Так «рыхтуюцца» да з'езда рабселькораў БССР у Лельчыцах.

**Ф. ШЫЛЕНКОЎ.**

**м. Лельчыцы.**

• <u>Па старонках раённага і палітаддзельскага друку</u>

# Хроніка прадз'ездаўскай *падрыхтоўкі*

## ВІЦЕБСК.

Газета **«Віцебскі пралетарый»** у спецыяльнай старонцы аб арганізацыі калгасных хат-лабараторый выступіла з паказам вопыта работы першай у раёне хаты-лабараторыі калгаса **«Чырвоная армія»**. Яшчэ 5 мая ў дзень друку селькоры гэтага калгаса рашуча паставілі перад праўленнем калгаса пытанне аб адкрыцці хаты-лабараторыі. Пры дапамозе газеты «Віцебскі пралетарый» хата-лабараторыя была адкрыта.

Ранняй вясной былі здведзены тры вопытныя ўчасткі для пасадкі бульбы па розных угнаеннях. На кожным участку праводзіўся самастойны вопыт. І ў выніку адзін участак даў ураджай бульбы сам-100, другі — сам-30, трэці — сам-1[illegible].

У адзнаку падрыхтоўкі да VII усесаюзнага з'езда советаў і 3-га ўсебеларускага з'езда рабселькораў калгасная хата-лабараторыя абавязалася дабіцца, каб агратэхэкзамен на значок «ЗОТ» здалі не менш 15 калгаснікаў. Сёння хата-лабараторыя рыхтуецца да зімовай агратэхвучобы.

У тым-жа спецыяльным нумары, прысвечаным калгасным хатам-лабараторыям.

«Віцебскі пролетарый» выступае з паказам вопыта работы другой, арганізаванай у гонар з'езда рабселькораў хаты-лабараторыі ў калгасе «Другая пяцігодка». Рэдактар калгаснай насценгазеты тав. **Лахновіча**:

«У хаце выстаўлены экспанаты лепшых паказальнікаў ураджаю па асобных культурах з указаннем, як даглядалася тая ці іншая культура, якое ўгнаенне клалася пад яе, як апрацоўвалася глеба, калі адбывалася сяўба. Калгаснікі навочна бачаць, якая карысць ад добрай апрацоўкі глебы, добрага ўгнаення і спелых тэрмінаў сяўбы.

Пры дапамозе вучняў Аламаўскай школы арганізован збор розных відаў пустазелля, розных шкоднікаў сельскай гаспадаркі. З сабраных экземпляраў арганізуецца спецыяльная выстаўка. Праз выстаўку калгаснікі будуць знаёміцца з метадамі барацьбы супроць пустазелля і шкоднікаў сельскай гаспадаркі.

Тут-жа на сцяне развешаны дыяграмы росту калгаса, даходу калгаснікаў, росту калгаснай заможнасці і культурнасці калгаснікаў.

Арганізуецца бібліятэка і вітрыны па асобных галінах жывёлагадоўлі, палыводства, гародніцтва».

## БУДА-КАШАЛЁЎСК.

Вышаў чацверты нумар апаратыўнага друкаванага бюлетэня раённай і палітаддзельскай газеты **«За месца на ўсебеларускім з'ездзе рабселькораў»** У бюлетэні друкуецца рад заметак селькораў, рэдактароў нізавых газет аб вопыце падрыхтоўкі да ўсебеларускага з'езда. Тав. **Чуракоў** расказвае аб выніках праведзенага ў калгасе «Чырвоная Беларусь» рэйду па праверцы падрыхтаванасці калгаснай фермы да зімы. Была вылучана брыгада цесляроў. І ў рэзультаце «кароўнік ацеплен, сцены паштукатураны і абмазаны глінай, змешанай з саломай».

У заметцы «Спаборніцтва двух газет» бюлетэнь перадае вопыт спаборніцтва двух калгасных насценгазет на лепшую работу па завяршэнню калгасамі сельскагаспадарчага года. Найлепшая апрацоўка ільну і датэрміновае выкананне плана ільнозагатовак, скančэнне зябліва і будаўніцтва свінарніка да 15 кастрычніка, падрыхтоўка калгаса да зімы, ацяпленне хлявоў — важнейшыя паказальнікі спаборніцтва.

У бюлетэні друкуецца пастанова бюро РК КП(б)Б і палітаддзела МТС аб ходзе падрыхтоўкі да ўсебеларускага з'езда рабселькораў. Пастанова абавязвае партыйную арганізацыю раёна і рэдакцыі раённай і палітаддзельскай газет правесці ў калгасах масавыя рэйды па праверцы падрыхтаванасці жывёлагадоўчых і свінагадоўчых ферм да зімоўкі.

21 кастрычніка склікаецца раённы злёт рабселькораў. На злёт выклікаецца 100 селькораў, 30 рэдактароў і членаў рэдкалегій калгасных насценгазет, 15 старшынь буйнейшых калгасаў і 15 калгасных брыгадзіраў.

## БЯГОМЛЬ.

Райком КП(б)Б і палітаддзел МТС вылучылі 11 таварышоў з раённага партыйнага актыва для дапамогі ў разгортванні работы нізавых калгасных газет. На жаль, толькі частка вылучаных таварышоў правялі ў сельсоветах **партыйна-камсамольскія дні аб друку** і паладзілі ўлік насценгазет. Большасць-жа вылучаных таварышоў яшчэ нічога не зрабілі па разгортванню соцспаборніцтва нізавых газет, не арганізавалі ўліку селькораў і насценгазет, не змагаюцца за дзейснасць селькораўскіх заметак у нізавым друку.

## РЭЧЫЦА.

12-га кастрычніка ў клубе завода **«Інтэрнацыянал»** праведзен вечар сустрэчы рабкораў-ударнікаў з рабкорамі-ўдарнікамі завода імя Томскага. На вечары рабкоры абмяняліся вопытам сваёй работы і падрыхтоўкі да ўсебеларускага з'езда. Выступалі сакратары парткомаў, рэдактары насценгазет, рабкоры-ўдарнікі.

На вечары сустрэчы рабкораў двух прадпрыемстваў прынят дагавор соцспаборніцтва на хутчэйшае і лепшае выкананне промфінплана, па лепшую работу насценгазет і рабкораў, на бальшавіцкую падрыхтоўку да ўсебеларускага з'езда рабселькораў і разгортванне работы дэпутацкіх груп горсовета.

У адказ на заклік фабрычна-заводскіх газет Барысава аб пабудове звяна самалётаў імя 3-га ўсебеларускага з'езда рабселькораў рэдкалегія насценгазеты «Саматас» змены «А» завода імя Томскага сабрала і пераваля на бягучы рахунак 90

рублёў. Рэдкалегія насценгазеты «Саматас» выклікала на збор сродкаў рэдкалегіі стружачнага цэха і склада.

## ДЗЯРЖЫНСК.

Бюро раённага камітэта партыі заслухала даклады двух парторгаў калгасаў **«Комунар»** і **«Чырвоны сцяг»** аб ходзе падрыхтоўкі да 3-га ўсебеларускага з'езда рабселькораў. Адзначаючы значныя поспехі ў разгортванні работы з селькорамі ў калгасе «Комунар» (наладжан рэгулярны выпуск агульнакалгаснай і брыгадных насценгазет, праведзен злёт селькораў калгаса, насценгазеты разгарнулі соцспаборніцтва, уключыліся ў жывёлагадоўчы паход імя VII-га з'езда советаў), бюро райкома адначасова ўказала парторгу калгаса «Чырвоны сцяг» тав. **Латушку** на адсутнасць работы з селькорамі і недаацэнку ролі нізавых газет.

**
*

У канцы верасня ў калгасе «Чырвоны пагранічнік», Дзяржынскага раёна, праведзен злёт селькораў Бароўскага сельсовета. На злёце выступіў з дакладам рэдактар палітаддзельскай газеты тав. **Радкевіч**, начальнік райміліцыі тав. **Дзяменцеў**, які расказаў селькорам аб выніках расследвання іх заметак і рэагавання на матэрыялы ў друку. Прысутнічала на злёце каля 100 селькораў і членаў рэдкалегій.

## СТАРОБІН.

Селькоры і нізавы калгасны друк Старабінскага раёна сустракаюць усебеларускі з'езд рабселькораў разгорнутай работай па хлебазакупках. **Па ініцыятыве насценгазеты і селькораў калгас «Новае жыццё» адным з першых у раёне прадаў кааперацыі 25 цэнтнераў хлеба.**

Насценгазета калгаса «Ясная раніца» заклікае селькораў паказаць прыклад калгаснікам у продажы сваіх лішкаў хлеба кааперацыі. І ў выніку калгас прадаў 5 тон зярна.

Актыўна працуюць па арганізацыі хлебазакупак і селькоры калгаса **«Будаўнік»**. На сёння калгаснікамі прадана кааперацыі 8 цэнтнераў хлеба.

## ЖЫТКАВІЧЫ.

Раённая газета **«Прымежны комунар»** **друкуе справаздачу парторга Ляхавіцкага сельсовета тав. Глушчэні** аб рабоце нізавых газет і селькораў і іх падрыхтоўцы да ўсебеларускага з'езда.

Селькоры Ляхавіцкага сельсовета практычна ажыццяўляюць узятыя імі на сельсовецкім злёце абавязацельствы па арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаванню калгасаў.

**За некалькі дзён селькоры Ляхавіцкага сельсовета ўцягнулі ў калгасы звыш 100 працоўных аднаасобнікаў.** Адзін толькі тав. **Стэльмах** шляхам абходу двароў і правядзення ў хатах гутарак **уцягнуў у калгас 25 аднаасобнікаў,** селькор **Мялікаў** пры дапамозе таварыша **Бародзіча** ўцягнуў у калгас «Беларускі комунар» 17 аднаасобнікаў.

Праз насценгазету селькоры выкрылі члена сельсовета—падкулачніка **Гаўрыловіча,** які таемна вёў работу супроць калгасаў, тармазіў прыліў у калгас працоўных аднаасобнікаў. Гаўрыловіч выведзен пленумам са складу членаў сельсовета.

## АСІПАВІЧЫ.

Насценгазета калгаса **«Чырвоны сцяг»**, Яноўскага сельсовета, першай узняла пытанне аб продажы кааперацыі лішкаў хлеба і арганізацыі чырвоных абозаў з зярном. Ініцыятыву насценгазеты падтрымалі калгаснікі-ўдарнікі. І калгас у гонар 3-га ўсебеларускага з'езда рабселькораў першым у раёне прадаў у кааперацыю 20 тон зярна.

На заклік «Чырвонага сцяга» адгукнуліся іншыя калгасы. Пленум Верайцоўскага сельсовета аператыўна ўключыўся ў арганізацыю чырвоных абозаў. Калгас «Большэвік» адным з першых у Верайцоўскім сельсовеце прадаў у асіпавіцкую кааперацыю 45 цэнтнераў хлеба.

С. ТАНАТАЎ

газета «Мотор», завода «Динамо» (Масква).

# ВУЧЫМСЯ І ВУЧЫМ ДРУГІХ

У 10-м нумары журнала «Большэвіцкі друк» мы расказалі аб тым, як працуе газета «Мотор». З таго часу прайшло больш двух месяцаў. Газета з дня на дзень замацоўвала дасягнутыя поспехі, множыла іх. У выніку ў нашай рабоце адбыліся вялікія змены. Аб іх мы раскажам у гэтым артыкуле.

Самае галоўнае—гэта арганізацыйная работа. Яна вырашае поспех справы. Правільна арганізаваць працу ў рэдакцыі—вось што нам трэба цяпер.

## РАБКОРЫ ПІШУЦЬ ПЕРАДАВЫЯ

З чаго мы пачалі? Мы пачалі ў першую чаргу з таго, што прыступілі да арганізацыі моцнага рабкораўскага актыва вакол кіруючых работнікаў рэдакцыі.

У нашым актыве ёсць не толькі радавыя рабкоры—рабочыя таго ці іншага цэха, але і інжынерна-тэхнічныя работнікі, парторгі, профарганізатары.

На працягу некалькіх дзён мы пачыналі нашу работу ў рэдакцыі з таго, што ішлі ў цэхі, выяўлялі лепшых ударнікаў, правяралі людзей. Калі падабралі чалавек дваццаць, мы пачалі даваць ім самастойныя канкрэтныя заданні. План, які мы складаем па некаторых аддзелах (на рашаючых участках, дзень нашага завода, што новага ў цэхах і т. д.), абмяркоўваем сумесна з актывам. Такім чынам таварыш, якому даручаецца тое ці іншае заданне, мае яснае ўяўленне не толькі аб тым, што зрабіць, але і як зрабіць.

Цяпер у нашым актыве налічваецца звыш 50 чал. Можна без перапавелічэння сказаць, што гэтыя людзі па сутнасці з'яўляюцца нашымі соцнамеснікамі. У выніку такой пастаноўкі пытання мы «забілі двух зайцаў». Па-першае такія аддзелы як «Дзень нашага завода», «На рашаючых участках» і асабліва чацвертая старонка нашай газеты сталі больш аператыўнымі, бо нашы «паўпрэды» (актыў) раскіданы па ўсіх кутках велізарнага завода і неадкладна паведамляюць у рэдакцыю аб тым, што дзе новага. Па-другое, мы ў значнай меры і нават зусім разгрузілі асобных работнікаў рэдакцыі ад падачы матэрыяла ў гэтыя аддзелы.

Ужо ўвайшло ў практыку нашай работы, што работнікі рэдакцыі амаль не пішуць перадавых артыкулаў. Калі нам патрэбен які-небудзь перадавы артыкул, мы яго даручаем пісаць актыўнаму рабкору. Напрыклад, перадавы да ўсесаюзнага з'езда савецкіх пісьменнікаў напісаў наш актывіст **В. Прымераў,** аб якасці мантажа вагонаў маскоўскага метро напісаў **Шабалін,** аб прастоях—**Ульянаў** (трамвайны цэх), аб партыйнай вучобе—культпроп парткома **Молатаў,** аб спаборніцтве і ўдарніцтве напісаў перадавы артыкул старшыня заўкома **Бенецкі.**

Ці варта даказваць, што цяпер перадавыя артыкулы сталі больш канкрэтнымі, бо іх пішуць людзі, добра ведаючыя справу на тым ці іншым участку.

## ПЛАТНЫ АПАРАТ ЗАМЯНЯЮЦЬ СОЦНАМЕСНІКІ

Па-сапраўднаму мы паставілі работу з соцнамеснікамі толькі пасля ўказанняў тав. **Кагановіча** на пленуме Камісіі партыйнага кантроля. Вопыт у прымацаванні работнікаў газеты да асобнай групы цэхаў у якасці інструктароў сябе цалкам апраўдаў. Аб гэтым мы пісалі ўжо ў «Большэвіцкім друку». Калі людзі добра вывучылі невялікую групу цэхаў, мы пераглядзелі склад інструктароў. Калі раней асобны

работнік газеты быў прымацован да аднаго-двух цэхаў, то зараз, калі работа з актывам наладжана, мы ўвесь завод разбілі на тры групы. Першая група — ліцягавы цэх, кранавы, мантаж электравоза, апаратныя цэхі (іх чатыры), шырспажыва, трамвайны. Да гэтай групы прымацован інструктар **Кузняцоў**.

Другая група—ліцейны цэх, электрычны, інструментальны, кавальска-зварачны, механа-загатоўчы, тэхнічны аддзел. Да гэтай групы цэхаў прымацован інструктар **Бажэнаў**.

Трэцяя група—аддзел рабочага спаблжэння, цэх харчавання, транспартна-гаспадарчы цэх, дамы рабочых, баракі. Да гэтай групы цэхаў прымацован інструктар **Журыкава**.

Кожны з інструктароў мае ў кожным цэху аднаго-двух соцнамеснікаў. Яны і арганізуюць патрэбны для газеты матэрыял па плану інструктара. Задачы інструктароў зараз значна ўзраслі. У іх абавязкі ўваходзіць больш арганізоўваць актыў, сістэматычна праводзіць інструкцыйныя нарады рэдкалегій цэхавых насценгазет, а таксама нарады па асобных пытаннях, якія ўзнімае газета.

Такім чынам у некаторых нашых работнікаў (Бажэнаў, Журыкава) ёсць па 8-10 соцнамеснікаў. Стала значна лягчэй працаваць. А рэдакцыя газеты ў выніку сістэматычнай работы інструктароў у цэхах атрымлівае зараз вялікую колькасць рабочых пісем (да 80 у дзень). Важна адзначыць, што соцнамеснікі і актыўныя рабкоры, згрупаваныя вакол асобных работнікаў рэдакцыі, не толькі літаратурна апрацоўваюць некаторыя пісьмы, а і правяраюць асобныя факты.

Мы ў нашым апараце скарацілі трох інструктароў. І гэта зразумела. Ім няма чаго рабіць у апараце рэдакцыі. У далейшым мы мяркуем скараціць яшчэ аднаго інструктара. Значна ўшчыльнён рабочы дзень у рэдакцыі і кожнага работніка ў паасобку.

## РЫХТУЕМСЯ ДА ЗІМЫ

За летні час мы дабіліся немалых поспехаў у сваёй рабоце. Мы арганізавалі філіял габінета друку для вучобы рабкораў. Арганізавалі экскурсіі рабкораў, рэйды па асобных пытаннях, сістэматычна праводзім нарады па пытаннях работы з рабочым пісьмом, паляпшэння работы насценнай газеты і т. д.

Зараз мы сур'ёзна ўзяліся за падрыхтоўку да зімы. Галоўную задачу мы паставілі перад сабой—гэта ўзнімаць палітычны і культурны ўзровень кожнага рабкора, знаёміць яго з асновамі марксісцка-ленінскага вучэння аб друку.

З гэтай мэтай, па пастанове партыйнага камітэта і пры яго актыўнай дапамозе, мы арганізавалі **заводскі інстытут журналістыкі.** На працягу трох тыдняў усе работнікі рэдакцыі хадзілі па цэхах, падбіралі людзей, правяралі іх. Такім чынам мы падабралі добрых кандыдатаў у інстытут, пераважна з рэдактароў насценгазет, актыўных рабкораў-камуністаў. Камуністычны інстытут імя Свердлова ў Маскве дапамог нам выпрацаваць падрабязныя праграмы для інстытута, а партыйны камітэт завода вылучыў лепшых людзей з ліку кваліфікаваных прапагандыстаў у якасці выкладчыкаў. Першага кастрычніка інстытут пачынае сваю работу.

Сістэматычна мы праводзім заняткі літаратурнага гуртка. Гэты гурток ужо мае вялікія поспехі. Даволі ўказаць на такі факт, што толькі пры яго актыўным удзеле **мы ўжо выпусцілі шэсць нумароў друкаванай літаратурнай газеты «Сдаем пробу».** Наладжана работа Інстытута завочнага навучання і фотагурткоў. Мы абвясцілі конкурс на лепшы рысунак, карыкатуру. За 10 дзён мы атрымалі звыш 150 рысункаў. Да 17 гадавіны Окцябра мы арганізуем вялікую выстаўку работ мастакоў-самавучак.

Арганізаваны і пачаў працу новы гурток—**гурток рэцэнзентаў.**

Амаль ва ўсіх цэхах завода мы правялі семінары рэдактароў, членаў рэдкалегій насценгазет. Кожнай рэдкалегіі мы дапамаглі скласці планы работы на асенне-зімовы час.

Заканчваецца афармленне габінета друку. Арганізуюцца новыя выстаўкі з паказам работы фабрычна-заводскіх газет асобных прадпрыемстваў Саюза, выстаўка насценгазет нашага завода і т. д. Ужо зараз мы забяспечаны цалкам неабходнай літаратурай для таго, каб арганізавана пачаць вучобу рабкораў.

## АДКАЗ—НА КОЖНУЮ ЗАМЕТКУ.

Некалькі слоў аб дзейснасці матэрыялаў. Мы ўжо расказалі аб тым, што нашы рабкоры правяраюць пісьмы рабочых. Яны-ж правяраюць і дзейнасць змяшчаемых заметак. Характэрны прыклад. Ёсць на нашым заводзе група веласіпедыстаў. Гэта група арганізавала вялікі велапрабег па Каўказу. Побач з тым, што ўдзельнікі паходу азнаёміліся з Каўказам, яны падрабязна вывучылі работу нашых электравозаў на Сурамскім перавале. Мы склікалі ў рэдакцыі нараду ўдзельнікаў велапрабегу. Разам з імі выпрацавалі план паласы. Гэту паласу яны падрыхтавалі і расказалі на старонках заводскай газеты аб тых недахопах, якія выяўлены ў рабоце электравозаў. Зараз удзельнікі нашай нарады непасрэдна ў цэхах завода дабіваюцца, каб выкараніць гэтыя недахопы.

Другі факт. Прыслаў нам адзін рабочы пісьмо, што ў Косіна (пад Масквой) дрэнна працуе наша рыбная гаспадарка. Групе веласіпедыстаў (Праніўнікаву, Міхайлаву, Жыц) мы даручылі праверыць гэта пісьмо. На веласіпедах яны паехалі ў Косіна і дадаткова выявілі рад злоўжыванняў. Мы паставілі пытанне на парткоме. І партком прыняў рад мер па аздараўленню рыбнай гаспадаркі.

Так мы скарыстоўваем у рабоце заводскай газеты кожнага актывіста. Так рабкораўскі актыў дапамагае на ўсіх участках нашай работы ўзнімаць якасць газеты, узнімаць яе аўтарытэт у шырокіх масах заводскага калектыва.

**
*

У гэтым артыкуле мы не пералічылі ўсяго размаху, усёй той велізарнай работы, якую зараз праводзіць газета. Мы расказалі аб асноўным, аб тым, што вырашае поспех справы. І калі наш вопыт будзе падхоплен фабрычна-заводскімі газетамі Беларусі, я буду лічыць, што задачу, якую я паставіў перад сабой у гэтым артыкуле, я выканаў.

**ВОЛГІНА**

**Рэдактар газеты палітаддзела Крычаўскай МТС**

# ДРУКАВАНАЯ ГАЗЕТА Ў КАЛГАСЕ

Калгас **«На варце»** Бацвінаўскага сельсовета **(Крычаўскі раён)**—вялікі. Азімым жытам у гэтым годзе ён засеяў 437 га. У калгасе 5 паляводчых, дзве жывёлагадоўчыя брыгады (ёсць МТКФ, СТКФ і аўцагадоўчая ферма). Брыгады адна ад другой знаходзяцца на адлегласці 3—5 клм.

Вясной калгас значна адставаў, за што быў занесен на чорную дошку. Памылкі, дапушчаныя вясною, калгаснікі ўлічылі: калгас «На варце» адным з першых у раёне справіўся з уборкай і выканаў дзяржаўныя пастаўкі.

Ва ўсіх брыгадах выходзяць брыгадныя насценгазеты, выходзіла і агульнакалгасная. Агульнакалгасную насценгазету чыталі не ўсе калгаснікі, бо ў цэнтры калгаса, дзе яна вывешвалася, калгаснікі далёкіх брыгад бываюць вельмі рэдка. Перад палітаддзелам і яго газетай **«Ударнік»** паўстала пытанне: як арганізаваць выпуск агульна-калгаснай газеты, **каб яе чыталі своечасова ўсе калгаснікі?** Пераносіць насценгазету па

брыгадах не мела сэнсу, бо пакуль газета абойдзе сем брыгад, матэрыял не страціць сваю апэратыўнасць.

У пачатку ўборкі ўраджаю газета «Ўдарнік» арганізавала выязную рэдакцыю ў гэты калгас і выпусціла спецыяльны нумар друкаванай газеты **«Ударнік» у калгасе «На варце»**, дзе быў паказан вопыт першых дзён уборкі. Але такія нумары газета палітаддзела часта выпускаць не мела магчымасці, бо МТС абслугоўвае 42 калгасы, а работнікаў у рэдакцыі толькі адзін—адказны рэдактар.

26 ліпеня калгас «На варце» першым у зоне МТС скончыў уборку жыта і ячменю на дзень раней тэрміна, вызначанага планам работ. 542 га жыта і 137 га ячменю зжаты на працягу 8 дзён. У гэты дзень вышаў аб'яднаны нумар газеты палітаддзела «Ўдарнік» і агульнакалгаснай насценгазеты **«За заможнае жыццё»** з паказам дасягненняў і недахопаў на ўборцы і чырвоным спісам кандыдатаў на атрыманне прэміі на конкурсу на лепшую жняю, жняярку і касца.

Калгас святкаваў дажынкі і на ўрачыстым вечары, які супаў з падрыхтоўкай да выхаду 5000-га нумара газеты «Звязда» лепшыя ўдарнікі і ўдарніцы калгаса прад'явілі праўленню і палітаддзелу рад патрабаванняў. Яны заявілі, што хочуць жыць не толькі заможна, але і **культурна, весела.** Яны патрабавалі: адкрыць у калгасе дом соцкультуры і хату-лабараторыю, устанавіць радыё і тэлефон, арганізаваць вячэрнія школы. А галоўнае, чаго яны патрабавалі, гэта **мець сваю друкаваную газету,** якая-б асвятляла работу ўсіх брыгад і лепш арганізавала іх на барацьбу за большэвіцкі калгас, за заможнае, культурнае жыццё.

Палітаддзел і газета «Ўдарнік» пашлі насустрач жаданню калгаснікаў і арганізавалі ў калгасе «На варце» **першую ў Беларусі друкаваную калгасную шматтыражку.** З таго часу газета рэгулярна выходзіць адзін раз у дэкаду. Да 1-га кастрычніка вышла 7 нумароў.

Выданне газеты мы арганізавалі так: У калгасе выбрана рэдкалегія. Па выпрацаванаму плану яна арганізоўвае матэрыял для сваёй газеты. Сабраны матэрыял рэдкалегія дасылае рэдакцыі газеты «Ўдарнік», якая ўзяла на сябе афармленне і вёрстку газеты калгаса.

Калгаснікі вельмі задаволены, што маюць сваю друкаваную газету і прымаюць у ёй актыўны ўдзел.

**П Р У С А К**

**рэдактар газеты палітаддзела Барысаўскай МТС**

# Як мы вучым селькораў

Селькоры калгасаў, абслугоўваемых **Барысаўскай МТС**, узмоцнена рыхтуюцца да ўсебеларускага з'езда рабселькораў. Рэзультаты падрыхтоўкі відны перш за ўсё ў значным росце ліку селькораў нашай палітаддзельскай газеты. Цяпер нам пастаянна пішуць **79 селькораў,** а месяц назад селькораў было толькі **32.**

У рэдакцыі я—адзіны работнік. Які многа часу адбірае выпуск нумароў, я ні на адзін дзень не спыняю сувязь з селькорамі. За апошні час ва ўсіх сельсоветах і найбольш буйных калгасах праведзены кароткатэрміновыя курсы-семінары старшынь рэдкалегій насценгазет і рабселькораў. Акрамя мяне семінарамі кіравалі і другія работнікі палітаддзела.

Мэта гэтых семінараў заключалася ў тым, каб растлумачыць селькорам чарговыя задачы партыі і навучыць іх, **як трэба працаваць над заметкаю, выпускаць насценгазету.** Кіраўнікі курсаў карысталіся канкрэтнымі прыкладамі: бралі найўдалую селькораўскую заметку і растлумачвалі селькорам, **у чым яе недахопы і як трэба было напісаць заметку.** Таксама разглядаліся асобныя нумары насценгазет.

Такім метадам мы ўпершыню правялі курсы рэдактароў. Рэдактары асталіся задаволенымі курсамі і многаму на іх навучыліся.

Рэгулярна я пасылаю селькорам пісьмы. На кожную дэкаду я складаю план нумароў газеты палітаддзела і план арганізацыйна-масавай работы. Планы рассылаю ўсім нашым селькорам, каб яны ведалі, якімі пытаннямі будзе займацца газета ў наступную дэкаду.

Апрача таго, з многімі селькорамі я вяду індывідуальную перапіску. У пісьме я адказваю селькору на яго пытанні, **разглядаю прысланыя ім заметкі, указваю, што ў іх добра, што дрэнна, даю селькору парады.**

У парадку падрыхтоўкі да ўсебеларускага з'езда мы пачалі на старонках палітаддзельскай газеты перакліччу селькораў і рэдактароў насценгазет. Амаль у кожным нумары газеты друкуюцца пісьмы селькораў і рэдактароў аб іх рабоце, аб тым, як яны рыхтуюцца да ўсебеларускага з'езда.

14 кастрычніка ў «дзень ураджаю і калектывізацыі» праведзен злёт селькораў калгасаў, абслугоўваемых МТС. На злёце падведзены першыя вынікі падрыхтоўкі да з'езда, выкрыты недахопы. Селькоры-ўдарнікі тт. **Мазоль Я., Жукоўскі, Апет,** якія паказалі лепшыя ўзоры падрыхтоўкі да з'езда, на злёце былі прэміраваны.

---

## *АБМЯРКОУВАЕМ ПЛАН РАБОТЫ „УДАРНІКА КАЛГАСНЫХ ПАЛЁЎ“*

**Я. ІВАШЫН**

Рэдактар газеты палітаддзела Крупскай МТС «За сталінскія калгасы».

# МАЕ ЗАЎВАГІ АБ ПЛАНЕ

У журнале «Большэвіцкі друк» (№ 18) апублікован план арганізацыйна - масавай работы рэдакцыі газеты палітаддзела першай Менскай МТС на верасень — кастрычнік.

Надрукаванне гэтага плана ў парадку абгаварэння мае вялікае значэнне. І вось чаму. Некаторыя палітаддзельскія газеты жывуць пераважна самацёчным матэрыялам, мала адчуваецца арганізатарская роля газет. Значыць, ужо сама пастаноўка пытання аб плане з'яўляецца даволі актуальнай справай для палітаддзельскіх і раённых газет.

Цяпер па сутнасці самога плана. Каштоўнасць плана ў тым, што ў ім ахоплены вузлавыя пытанні работы: падрыхтоўка жывёлы да зімоўкі, хлебазакупкі, засыпка насенных і страхавых фондаў, падрыхтоўка да ўсебеларускага з'езда рабселькораў, разгортванне партыйнай вучобы. Праўда, пералічаныя задачы агульнавядомы для кожнай рэдакцыі, але не ўсе газеты аднолькава змагаюцца за ажыццяўленне гэтых задач. Адны рэгіструюць факты, задавольваюцца толькі тымі матэрыяламі, якія самацёкам трапляюць у рэдакцыю, другія арганізуюць селькораў, арганізуюць рэйды «лёгкай кавалерыі» і т. д.

Мяркуючы па плану, формы і метады работы рэдакцыі «Ўдарнік» калгасных палёў» даволі рознастайныя. Яны забяспечваюць уцягненне шырокіх калгасных мас у работу газеты. Гэтым я зусім не хачу сказаць, што формы і метады работы, вызначаныя ў плане рэдактара «Ўдарніка калгасных палёў» тав. Чаўскага, трэба ў гатовым выглядзе, як яны ёсць, механічна пераносіць ва ўсе палітаддзельскія і раённыя газеты. У той-жа час я не з'яўляюся прыхільнікам пагоні за «вынаходствам» новых форм работы толькі для формы. Наш большэвіцкі друк мае надзвычай вялікі і каштоўны багаж форм і метадаў арганізатарскай работы. Важна **умець выкарыстаць гэтыя формы,** выходзячы з канкрэтных мясцовых умоў.

Для прыкладу скажу некалькі слоў аб вопыце сваёй апаратыўна - масавай работы ў справе падрыхтоўкі жывёлы да зімоўкі. Перш за ўсё кожнае важнейшае мерапрыемства па лініі газеты я ўвязваю з агульным планам работы палітаддзела. У пачатку верасня палітаддзел праводзіў нараду старшынь калгасаў, загадчыкаў ферм і старшых конюхаў на пытанню падрыхтоўкі жывёлы да зімоўкі. Побач з іншымі пытаннямі на нарадзе мы распрацавалі апублікаванае ў «Звяздзе» пісьмо работнікаў МТФ калгаса «Чырвоныя ўсходы», Арэханскага раёна, аб уключэнні ва ўсебеларускае спаборніцтва на лепшую падрыхтоўку зімоўкі

жывёле. Пры маім актыўным удзеле выпрацавалі і прынялі ў парадку самаабавязацельства канкрэтныя мерапрыемствы па завяршэнню будаўніцтва новых і рамонту старых кароўнікаў, свінарнікаў і канюшань, па складанню кармовых балансаў, пераводу работнікаў ферм на здзельшчыну і інш.

Работа нарады шырока асветлена ў газеце з пералікам узятых удзельнікамі нарады абавязацельстваў па соцспаборніцтву. Такім чынам газета з гэтым матэрыялам з'явілася канкрэтнай праграмай работы для кожнай жывёлагадоўчай фермы.

Праз дэкаду мы правялі ў кожным сельсовеце зоны МТС нараду жывёлагадоўчых секцый і арганізавалі брыгады для праверкі выканання фермамі ўзятых абавязацельстваў. Адначасова на сельсоветах праводзіліся нарады селькораў, на якіх таксама завострана было пытанне аб жывёлагадоўлі. Селькораўскаму актыву ў ліку 30 чалавек мною разасланы пісьмы інструкцыйнага парадку па пытанню асвятлення становішча падрыхтоўкі да зімы жывёлагадоўчых ферм. У газеце арганізавалі выступленне старшыні калгаса «Праўда», Хацюхоўскага сельсовета, і загадчыка МТФ калгаса «Шлях соцыялізма», Халопеніцкага сельсовета, і інш.

Самаправерка становішча жывёлагадоўчых ферм паказала, што ў радзе месц няправільна арганізавана работа, адсутнічае здзельшчына. Вядома, што адным канстатаваннем гэтых фактаў у газеце справы не паправіш. Таму ў бліжэйшыя дні мы мяркуем дапамагчы арганізаваць работу на ферме калгаса «Полымя», правесці работнікаў фермы на здзельшчыну і паказаць гэта ў газеце, каб на даным прыкладзе вучыліся іншыя.

Такім чынам план не ёсць нешта застыўшае. У працэсе работы ён паўхільна папаўняецца новымі пытаннямі.

Складанне плана оргмасавай работы рэдакцыі газеты на 2 месяцы я лічу нямэтазгодным. Лепш складаць план на месяц, бо не заўсёды прадбачыш усе неабходныя пытанні за два месяцы раней. У плане тав. Чаускага, напрыклад, нічога не сказана аб удзеле газеты ў арганізацыі вытворчага паходу імя XI усебеларускага і VII усесаюзнага з'ездаў советаў і наогул нічога не сказана аб удзеле ў падрыхтоўчай рабоце да выбараў у советы.

Ці азначае гэта, што «Ўдарнік калгасных палёў» застанецца ў баку ад такой важнейшай палітычнай кампаніі?

Вядома, не. Але калі тав. Чаўскі складаў план на два месяцы, ён не ведаў яшчэ аб перавыбарчай кампаніі советаў.

Я сумняваюся, ці ўдасца тав. Чаўскаму правесці ўсе масавыя мерапрыемствы, якія ён вызначыў у сваім плане. А намываць рад масавых мерапрыемстваў і не даводзіць іх да канца, значыць займацца пустазвонствам.

Не ў крыўду хай будзе сказана тав. Чаўскаму, план яго работы не вызваляе ад элементаў празмернай агульнасці і некаторай парадн(асці). Напрыклад, у парадку падрыхтоўкі да ўсебеларускага рабсельнораўскага з'езда рэдакцыяй «Ўдарніка калгасных палёў» праводзіцца рэйд праверкі: а) выканання пастаноў апошніх пленумаў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б, б) засыпкі насенных, страхавых і фуражных фондаў і падрыхтоўкі да размеркавання ўраджаю.

Цяжка ўявіць сабе, як гэта па ўсіх гэтых пытаннях правесці рэйд за пяць дзён і наколькі мэтазгодна адрываць ад вытворчай работы селькораў на пяць дзён падрад для ўдзелу ў рэйдзе.

На 18-19 верасня тав. Чаўскі ў сваім плане намячае: «Разгарнуць работу па ўцягненню лепшага беспартыйнага актыва ў групы спачуваючых».

Як удалося гэта мерапрыемства рэдакцыі «УКП», нам невядома, але сама пастаноўка пытання няправільная. У такой пастаноўцы пытання газета забягае наперад, імкнецца падмяніць сабою палітаддзел. Газета павінна займацца пытаннямі выхавання беспартыйнага актыва і ўцягнення лепшай яго часткі ў групы спачуваючых, але не ў такой форме, не беручы на сябе функцыю ўцягнення актыва ў групы спачуваючых, якая належыць непасрэдна пярвічнай партыйнай арганізацыі.

Пры разглядзе плана работы рэдакцыі «УКП» я, на жаль, не маю перад сабою газеты, па якой можна было-б меркаваць, у якой ступені рэалізован гэты план. Спадзяюся, што рэдакцыя журнала «Бальшэвіцкі друк» пасля шырокага абгаварэння гэтага плана дасць заключны артыкул, які з'явіцца павучальным для палітаддзельскіх і раённых газет у справе арганізацыі планавай аператыўна-масавай работы.

Н. ПУЗІКАЎ

Рэдактар газеты «Сцяг ударніка» (соўгас Бацэвічы, Клічаўскага раёна).

# Вылучаць галоўнае

Па маёй думцы план газеты **«Ударнік калгасных палёў»** мае буйнейшы недахоп —гэта тое, што ён у ліку важных і актуальных пытанняў не вылучае асноўнага вядучага звяна. З-за гэтага не відаць, што-ж рэдакцыя высоўвае ў якасці асноўнай задачы на вызначаны планам адрэзак часу.

План складзен на верасень і кастрычнік месяцы. Гэта рашаючы час у падрыхтоўцы да ўсебеларускага з'езда рабселькораў. Пытанні падрыхтоўкі да з'езда і павінны былі заняць цэнтральнае месца ў плане масавай работы газеты.

Праўда, «Ударнік калгасных палёў» не мінае ў плане гэтых пытанняў, але яны не вылучаны, не нададзена ім галоўнае значэнне. Астатнія пытанні работы газеты, як відаць з плана, не ўвязваюцца з падрыхтоўкай да з'езда рабселькораў.

У сувязі з падрыхтоўкай да ўсебеларускага з'езда вельмі важна было-б уключыць у план праверку партыйнага кіраўніцтва нізавым друкам. Рэдакцыя газеты «Ударнік калгасных палёў» высоўвае важныя мерапрыемствы:

**«У парадку падрыхтоўкі да з'езда селькораў правесці пашыраныя пасяджэнні праўленняў калгасаў сумесна з членамі рэдкалегій калгасных і брыгадных газет і ўсім актывам калгасаў з пытаннямі: становішча з разгортваннем самакрытыкі ў калгасе, рэагаванне на допісы і далейшыя мерапрыемствы па разгортванню нізавога друку».**

Але ў гэтай справе нельга абыходзіць нізавыя партарганізацыі. Пытанні разгортвання самакрытыкі, уздыму нізавога друку, кіраўніцтва ім, трэба было-б пачаць ставіць з пярвічных партыйных арганізацый.

У плане адсутнічаюць пытанні наладжання сістэматычнай вучобы селькораў. А гэта-ж першачарговая задача, абавязак кожнай газеты. У план трэба было ўключыць ахоп селькораў існуючай у зоне дзейнасці МТС сеткай партыйна-камсамольскай, тэхнічнай і агульна-асветнай вучобы. Пры складанні плана рэдакцыя абавязана была прадумаць формы вучобы селькораў. Яна можа правесці сама, разам з палітаддзелам, семінары, курсы, выстаўкі, забеспячэнне селькораў літаратурай.

Вось мае заўвагі пра план работы газеты 1-й Менскай МТС.

*НІЗАВЫ ДРУК НА АГЛЯДЗЕ*

# Масавая, аператыўная

У невялічкім пакоі рэдакцыі жлобінскай палітаддзельскай газеты «Чырвоны трактарыст» вісіць некалькі нумароў насценгазеты калгаса **«Серп і молат», Мормальскага сельсовета.** Рэдактар палітаддзельскай газеты тав. **Бурдо** з захапленнем расказвае пра аператыўнасць гэтай газеты, пра яе «тэлеграмы-маланкі»; сігналы якіх даходзяць і ў палітаддзел, пра жывую, бойкую карыкатуру, ажыўляючую ўвесь змест насценгазеты.


Тав. А. Самусевіч.

Першыя нумары насценгазеты **«За бальшавіцкі ўраджай»** вышлі ў 1932 годзе. Газета выходзіла раз ў дэкаду, а то і два разы ў месяц.

У 1933 годзе рэдакцыя папаўняецца лепшымі калгаснікамі-ўдарнікамі. У рэдкалегію калгаснай насценгазеты сталі часцей паступаць заметкі ад калгаснікаў,

нікаў, часцей стаў заходзіць парторг калгаса т. Іткін. Каля газеты згуртоўваецца селькораўскі актыў. Рэдактарам выбіраецца стары селькор, старшыня рэвізійнай камісіі калгаса, настаўнік **А. Самусевіч.**

Студзень 1934 года. За тры месяцы да выхаду ў поле насценгазета паставіла пытанне: ці падрыхтаваўся наш калгас да веснавой сяўбы. Яна правярае падрыхтаванасць да выхаду ў поле, на ўсіх участках. У выніку калгас за 2 месяцы да пачатку сяўбы адрамантаваў увесь сельскагаспадарчы інвентар, вывез увесь гной, 40 калгаснікаў пачалі навучацца ў заатэхгуртку, «каб авалодаць усімі працэсамі работ у буйнай сацыялістычнай гаспадарцы».

Газета звараче сваю ўвагу і на падрыхтоўку цягавай сілы і дабіваецца, напрыклад, таго, што «конюхі сталі лічыць за абавязак кожны дзень пачысціць каня шчоткай». Правільна і ўважліва дагледзець каня, выйсці ў поле са здаровымі і ўпітанымі коньмі—быў важнейшы лозунг газеты.

Такая своечасовая падрыхтоўка калгаса да вясны адыграла потым рашаючую ролю ў датэрміновым завяршэнні сяўбы. І ў гэтым была вялікая заслуга калгаснай насценгазеты.

***

Пачалася веснавая сяўба. Патрэбна максімальная аператыўнасць у рабоце кожнага члена рэдкалегіі. Па ініцыятыве рэдактара насценгазеты тав. А. Самусевіча рэдкалегія пачала выпускаць **«тэлеграмы-маланкі»**, арганізавала **рэгулярны выхад светавой газеты на кіноплёнцы.**

«Тэлеграмы-маланкі»—гэта невялічкі ліст паперы, запоўнены баявой, аператыўнай заметкай, патрабуючай неадкладнага рэагавання. Напрыклад, у рэдкалегію паступіла заметка, што па полі пасля жніва асталася многа несабраных каласоў, або што ўгнаенне раскідаецца няроўна. Такі факт патрабуе неадкладнага рэагавання. Заметка афармляецца ў «Тэлеграму-маланку», адзін экземпляр яе тут-жа вывешваецца, другі накіроўваецца ў палітаддзел МТС. Рэдактар насценгазеты тав. Самусевіч расказвае аб выключнай дзейснасці «тэлеграм-маланак». Вось што ён піша ў палітаддзел Жлобінскай МТС:

«Калгасную газету мы выпускаем праз кожныя 3-5 дзён. Гэта нас цалкам не здавальняе. Таму акрамя газеты мы пачалі выпускаць невялічкія «Тэлеграмы-маланкі», у якіх абмяжоўваемся 1-2 кароткімі заметкамі з указаннем канкрэтных фактаў, на якія патрабуем неадкладнага рэагавання.

На тое, каб напісаць і аформіць «Тэлеграму-маланку», ідзе не больш 20-25 мінут. Афармляем яе так: звычайнымі чарніламі пішам вялікімі літарамі загаловак «Тэлеграма-маланка», ніжэй падпісваем «усім калгаснікам, копія палітаддзелу», а пад змешчаным матэрыялам ставім подпіс рэдактара і час выпуску тэлеграмы.

Вельмі карысна змяшчаць у «маланцы» маленькія рысункі. Усім калгаснікам нашага калгаса надзвычайна спадабаўся такі тып газеты. Праз «Тэлеграму-маланку» мы дабіліся хуткага рэагавання на допісы. Вось, напрыклад, аднаго дня цыляты стаялі да 9 гадзін раніцы някормленымі. Мы выпусцілі «Тэлеграму-маланку», і мінут праз 20 цыляты былі накормлены».

Выпуск «Тэлеграм-маланак»—толькі адна з форм аператыўнай работы газеты. Выпуск светавых газет, арганізацыя рэйдаў—не менш дзейсныя формы работы газеты. У дні ўборкі ўраджаю ў рэдкалегію насценгазеты паступілі сігналы аб дрэннай якасці жніва. Насценгазета арганізуе рэйд. Удзельнікі рэйда —селькоры-калгаснікі — ідуць у поле, правяраюць якасць жніва. На зжатым полі знойдзена многа каласоў. Арганізуецца іх паўторнае збіранне. Для гэтага прыцягваюцца піонеры, уся калгасная дзетвара.

У газеце «За большэвіцкі ўраджай» знайшлі сваё адлюстраванне і пытанні падрыхтоўкі калгаснай фермы да зімы, і пытанні сіласавання і забеспячэння жывёлы кармамі за лік скошвання атавы, і пытанні ўважлівага догляду коней.

Непрымірымасць да класавых ворагаў — рашаючая ўмова работы калгаснай насценгазеты. Парторг калгаса тав. Іткін гаворыць:

— Калі-б не насценная газета, то падкулачнікі **Шаўцоў Мікола і Салагуб Іван** і па сёнешні дзень арудвалі-б у калгасе.

Насценная газета першай выступіла супроць гэтых замаскаваных шкоднікаў, якія пад выглядам селькораў прыкрываючыся комсамольскім білетам і званнем брыгадзіра, па сутнасці разбуралі калгас, зрывалі ўсе яго мерапрыемствы. **Шаўцоў Мікола знят з работы брыгадзіра Салагуб Іван выключан з комсамола.** Пры актыўнай дапамозе насценгазеты, па яе заметках і сігналах у палітаддзел МТС **ілжэселькоры выкрыты і зняты з кіруючай работы ў калгасе.**

Нядаўна калгасная насценгазета выкрыла вельмі хітра сплёцены класававарожы манеўр **Салагубава Апанаса.** Каб адпомсціцца калгасу за выключэнне брата з комсамола і зняцце яго з работы рахункавода, Апанас вязе для здачы дзяржаве ад імя калгаса папсаваную бульбу ў мяшках, на палову напоўненых зямлёй.

**Выключнай увагі ў рабоце насценгазеты заслугоўвае яе трапная карыкатура.** Карыкатура стала неадлучнай часткай афармлення насценгазеты, уздзеяння на чытача. Вось газета выступае супроць падзёншчыны. Яе заметка **«Працуе языком»** патрабуе, каб работа аплачвалася па колькасці і якасці выкананага задання. Пад заметкай трапная і жывая карыкатура. Яна дапаўняе ўвесь змест заметкі. Пад карыкатурай подпіс:

**«Чаму не працуеце?**

**— Нам плацяць падзённа».**

Або вось невялікая карыкатура на Шаўцова Міхася. Стаіць здаравенны мужчына. Ён «просіць лёгкай работы». А далей: «Конь пасля іванавых рук». У гэтай карыкатуры—трапны ўдар па нядбайных, абыякавых адносінах да каня, які «пасля іванавых рук» ледзь стаіць на нагах. Трапная і жывая карыкатура заваявала сабе ганаровае месца ў насценгазеце калгаса «Серп і молат». Дзейнасць матэрыялаў насценгазеты значна ўзрасла.

# „Калгаснік"—баявая насценгазета

Вялікім аўтарытэтам сярод калгаснікаў калгаса **«Новае жыццё»** (Барысаўскі раён) карыстаецца іх насценгазета **«Калгаснік».** І гэта зусім заслужана: «Калгаснік»—баявая насценгазета, яна аператыўна падхапляе кожнае мерапрыемства, якое праводзіцца ў калгасе. Вось некалькі прыкладаў.

У часе папярэдняга размеркавання ўраджаю ў верасні агульны сход калгаснікаў рашыў, каб кожны калгаснік завербаваў у калгас не менш двух аднаасобнікаў.

Рэдкалегія насценгазеты не асталася ў баку ад гэтай важнай справы. Рэдкалегія прымацавала кожнага селькора, члена рэдкалегіі да 3-4 аднаасобнікаў для правядзення растлумачальнай работы.

Рэдактар насценгазеты тав. **Жукоўскі** сам паказаў прыклад таго, як трэба змагацца за калгасны прыліў. Увесь свой вольны час ён аддаваў рабоце з аднаасобнікамі. У выніку за тры тыдні ў калгас уступіла 135 гаспадарак. Цяпер насценгазета многа аддае ўвагі новаўступіўшым калгаснікам.

Добра змагалася насценгазета за ўзорную падрыхтоўку да зімы калгаснай фермы.

Рэдкалегія забяспечыла штодзенны кантроль над ходам ацяплення хлявоў, з нумара ў нумар пісала аб ім у насценгазеце. На сёнешні дзень уся работа па падрыхтоўцы да зімоўкі жывёлы скончана: хлявы ацелены, кармоў загатовілі на ўсю зіму. У гэтым не малая заслуга насценгазеты.

Газета «Калгаснік» і яе селькоры нярэдна арганізоўваюць калгасную масу на продаж хлеба дзяржаве. Селькоры агітуюць за разгортванне хлебазакупак перш за ўсё сваім асабістым прыкладам. Лепшыя селькоры-ўдарнікі т. т. **Кульш, Жукоўскі, Несцяровіч** прадалі спажыўкаапераццыі па 80-100 кіло хлеба.

**П.**

**Калгас «Новае жыццё», Барысаўскі раён.**

# Нам неабходна літаратурная старонка

Працаваць над сабой, вучыцца, папаўняць свае веды—важнейшая задача кожнага маладога пісьменніка і асабліва нас—літтурткоўцаў.

Нам павінна дапамагчы перш за ўсё фабрычна-заводская газета. Яна павінна кіраваць літаратурным гуртком, выпускаць літаратурныя старонкі, друкаваць нашы невялікія расказы, нарысы і вершы.

Як **«Варашылавец»** займаецца гэтай справай? На нашым заводзе арганізаваны літаратурны гурток, актыўнасць яго расце з кожным днём, а «Варашылавец» стаіць у баку.

Наш літгурток за апошні час павялічыўся ў два разы. У сувязі са з'ездам пісьменнікаў мы выпусцілі ў шматтыражцы літаратурную старонку. На гэтым «Варашылавец» супакоіўся. Прайшло ўжо шмат часу, але літаратурныя старонкі больш не выходзяць.

Я прапаную: праз заводскую газету абмеркаваць паасобныя творы літгурткоўцаў, увесці ў газеце аддзел бібліяграфіі, дзе рэкамендаваць навейшыя кнігі для чытання і абмяркоўваць іх, заняцца пытаннямі работы бібліятэкі, папаўнення яе мастацкай літаратурай. Гэта яшчэ больш узніме зацікаўленасць рабочых нашага завода літаратурай.

Артыкул тав. Беккера, змешчаны ў журнале «Бальшэвіцкі друк», павінен увесці пералом у работу рэдакцый фабрычна-заводскіх газет з літгурткамі.

**Літгуртковец завода ЭЛЬТЭРМАН.**

# „Варашылавец“ нам не дапамагае

Літаратурны гурток варашылаўцаў лічыцца адным з лепшых не толькі ў Менску, але і ў БССР.

Аднак, у яго рабоце адчуваецца пейкая замкнутасць, адарванасць ад заводскага жыцця. У чым справа? Чым растлумачыць такое становішча?

Калі не ўся, то большая частка віны падае на заводскую газету **«Варашылавец»**. Нашы літгурткоўцы з'яўляюцца актыўнымі рабкорамі, а некаторыя — членамі і рэдактарамі цэхавых і брыгадных насценгазет (Грыншгэйн, Грышчэнка).

Аднак, «Варашылавец» праводзіць з імі работу толькі як з рабкорамі. Далейшы творчы рост рабкора - літгурткоўца праходзіць па-за ўвагай газеты.

**Стараста літгуртка завода імя Варашылава В. КОЗЛЯК.**

# Няма патрэбнай літаратуры

Наш літгурток існуе ўжо каля года. Работа гуртка цесна звязана з работай нашай заводскай шматтыражкі **«Рабочае вока»**.

Ініцыятарам арганізацыі літгуртка з'яўляецца рэдактар шматтыражкі тав. **Мінкін.** Будучы членам літгуртка, ён не забывае пра яго, рэгулярна наведвае заняткі, дае парады, як лепш паставіць работу, дапамагае ўцягнуць у літгурток усіх рабочых—пачынаючых аўтараў.

У шматтыражцы друкуюцца нарысы, фельетоны нашых літгурткоўцаў.

Дрэнна адносяцца да літгуртка другія заводскія арганізацыі. Заўком зусім не цікавіцца яго работай.

У заводскай бібліятэцы вельмі мала мастацкай і крытычнай літаратуры, патрэбнай для вучобы і творчага росту літгурткоўцаў. Аб тым, каб папоўніць бібліятэку, заўком нават і не думае.

Трэба нашай шматтыражцы пацікавіцца гэтым фактам. Газета павінна дапамагчы літгуртку атрымаць патрэбную для вучобы літаратуру.

**Літгуртковец завода «Большэвік» КУТМАН.**




## Алілуишчына, якая выплывае...

І так алілуйшчына выплыла. Выплыўшы агледзелася, набралася новых сіл і смела прадаўжала сваё беспрыкладнае злаванне.

Чытач збянтэжан. Чытач нічога не разумее. Мы таксама. Можам толькі сказаць, з чыёй лёгкай рукі алілуйшчына раптам стала плаваць, як рыба ў вадзе, або пляпер у паветры.

Будзем дакладны. Па-першае, алілуйшчына плавае над тэрыторыяй Хоцінскага сельсовета, які знаходзіцца ў Бешанковіцкім раёне. Па-другое, выплываць і плаваць алілуйшчыну прымушае рэдактар бешанковіцкай газеты **«Сталінец»** тав. **С. Яловік.**

Не верыце? Прачытайце артыкул аб Хоцінскім сельсовеце, змешчаны на старонках газеты («Сталінец» за 17 кастрычніка).

У гэтым сельсовеце, як паведамляе рэдакцыя, зрываюцца ільнозагатоўкі. Газета ставіць пытанне:

> **«Якім-жа чынам мяркуе выйсці з глыбокага прарыва старшыня сельсовета Матора?».**

У якасці адказу следуе наступная няграматная фраза:

> **«Матора лічыць абмежавацца частым склікаңнем пленумаў сельсоветаў (?), нарад і прэзідыумаў (?). І амаль праз дзень збірае іх».**

У Хоцінскім сельсовеце, як бачыце, ёсць некалькі сельсоветаў і некалькі прэзідыумаў?! Але чытач хоча ведаць, як выплывае і плавае алілуйшчына. Слухайце:

> **«На гэтых пленумах і нарадах ДОЎГАЯ АЛІЛУЙШЧЫНА старшыні сельсовета Маторы ВЫПЛЫВАЕ Ў ВОБЛАКІ махорачнага дыму».**

Нервы ў удзельнікаў пленумаў і нарад не вытрымліваюць:

> **«Людзі нібы п'яныя, як у вобмарку адкідваюць галовы і пачынаюць ХРЫПЕЦЬ».**

Нават страшна становіцца. Выплыла доўгая алілуйшчына. Людзі адкінулі свае галовы і пачынаюць хрыпець. Старшыня сельсовета

> **«... на некалькі гадзін змаўкае і чакае выказванняў».**

Але рэдактар газеты Яловік не змаўкае. У яго яшчэ ёсць, як ён сам выражаецца, іншыя «вапіюшчыя (?) факты».

Факт № 1:

> **«Па сельсовету маецца 51 аднаасобная гаспадарка. Работу сярод іх мага паставіць на «БОЛЬШОЙ ПАЛЕЦ», як гэта гаворыць сам старшыня сельсовета Матора. Але дзе там... Аднаасобны сектар ПАЗАБЫТ, ПАЗАБРОШАН».**

«На большой палец», пазабыт, пазаброшан». Прама кадр з фільма «Пуцёўка ў жыццё», а не артыкул у раённай газеце.

Факт № 2. Рэдакцыя выкрывае старшыню калгаса імя Варашылава Казлова, як сабатажніка ільнозагатовак:

> **«Гэта — былы заможнік. Ён ПАДТАСАВАЎШЫСЯ (?) «ЦІХА САПАЙ» вядзе калгас да разбурэння і САДЗІЦЬ УВЕСЬ СЕЛЬСОВЕТ У ПРАРЫЎ па ільнозагатоўках».**

Ну і стыль, ну і арфаграфія! У бедната чытача вушы вянуць. Якія-ж вывады робіць газета з гэтых «вапіюшчых фактаў?»

«**УСЕ ГЭТЫЯ ВАПІЮШЧЫЯ ФАКТЫ СІГНАЛІЗУЮЦЬ АБ НЕАДКЛАДНЫМ ПЕРАКЛЮЧЭННІ ЎСЯГО ЖЫВОГА Ў СЕЛЬСОВЕЦЕ НА САПРАЎДНУЮ БАРАЦЬБУ ЗА ЛЁН**».

Зарапартаваліся вы, тав. Яловік. Зарапартаваліся.

## НЕ ВЕР ВАЧАМ СВАІМ

Глуская раённая газета «**Сцяг калектывізацыі**» 22-га верасня расказвае праз выключна рэдкі ў практыцы выпадак, які, быццам, меў месца ў адным з калгасаў раёна:

«**І вось, сваёй безгаспадарчасцю Бабіч абрэзаў усю шыю каню, якая распухла і ўжо больш двух тыдняў стаіць у хляве і не папраўляецца**».

Абрэзаная конская шыя стаіць у хляве і не папраўляецца!



Сапраўды жудасны выпадак, аж паверыць цяжка. Шкада толькі, што аўтар заметкі не дадаў, дзе стаіць жарабец і як ён сябе адчувае без шыі.

---

## ЗДЗЕК НАД ЧЫТАЧОМ

Рэдакцыя раённай газеты „**Калгаснік Кармяншчыны**“ атрымала прэсбюлетэнь з артыкулам „Як праводзіць сельскораўскі рэйд“. Артыкул рашылі друкаваць. І пачалі друкаваць... Расцягнулі артыкул на цэлых чатыры нумары па 40-50 радкоў у нумары.



Але даруем рэдакцыі кармянскай газеты яе нахіл да слоў «працяг у наступным нумары». Становімся на месца чытача кармянскай газеты і чытаем «працяг» артыкула ў нумары за 10-е кастрычніка. Канчаецца гэта частка артыкула вельмі дзіўна: «**Для гэтага складаецца памятка ўдзельніка рэйда. Памятку рэдкалегія**». Што такое? Што значыць сказ «**Памятку рэдкалегія**»? Шукаем у наступным нумары папраўку, растлумачэнне. Няма папраўкі, ёсць працяг артыкула, які пачынаецца словамі «... **павінна выпрацаваць загадзя**».

12 кастрычніка артыкул канчаецца словамі «якія правяраюцца рэй», затым следуе «працяг у наступным нумары», другая-ж палова слова — «дам» — стаіць у пачатку чарговага «працягу» артыкула ў наступным нумары.

Над загалоўкам артыкула рэдакцыя надрукавала: «У дапамогу калгаснай насценгазеце». Няпраўда, таварышы! Якую-ж дапамогу атрымае калгасная рэдкалегія, прачытаўшы гэты так агідна пададзены артыкул!

# Ініцыятыва нізоўкі

## СТО НУМАРОЎ «РЭГУЛЯТАРА»

✱ **Вышаў соты нумар насценгазеты асіпавіцкага дэпо «Рэгулятар».** Падрыхтоўку і правядзенне свайго юбілея рэдкалегія насценгазеты адзначыла ўзмацненнем апаратыўна-масавай работы па ўсесаюзнаму спаборніцтву дэпо і праверкай гатоўнасці вадакачак да зімы.

Газета ўзняла пытанне аб выдачы пашпартоў паравозам, якія цалкам падрыхтаваліся да асенне-зімовых перавозак. Праверку гэтай падрыхтаванасці газета пачала з паравоза актыўнага рабкора-машыніста **Навуменкі.** Адміністрацыя дэпо падхапіла і праводзіць у жыццё ўнесеную нядаўна насценгазетай рацыяналізатарскую прапанову аб паскарэнні растопкі паравозаў на прамыўцы.

## ВЫЯЗНАЯ Ў СЕЛЬСОВЕЦЕ

✱ **Выязную рэдакцыю ў адстаючы Бялевіцкі сельсовет накіраваў** «Камунар Магілеўшчыны». У складзе выязной—3 чал. З-за адсутнасці друкарскай машыны выдаваць на месцы друкаваную газету не было магчымасці. Таму прадстаўнікі выязной рэдакцыі прыстасавалі іншыя формы работы: гутаркі, падворны абход аднаасобнікаў, выпуск апаратыўных насценгазет. Усё гэта спрыяла хутчэйшаму выкананню сельсоветам яго абавязкаў перад дзяржавай. Сёння ўжо самы адстаючы сельсовет выходзіць у лік перадавых.

## ПЕРАПІСКА З РЭДАКТАРАМІ.

✱ **Перапіску з рэдактарамі насценгазет** лесаўчасткаў арганізавала на сваіх старонках шматтыражка Чэрвеньскага леспрамгаса **«Ударнік леса».** 4-га кастрычніка газета змясціла пісьмо тав. Млявыму, у якім падрабязна разабрала метады работы насценгазеты, якасць змяшчаемых матэрыялаў, іх літаратурную апрацоўку і тэхнічнае афармленне насценгазеты. Такая перапіска—адна з форм канкрэтнай дапамогі ў паляпшэнні работы нізавой газеты.

## У ГОНАР З'ЕЗДА РАБСЕЛЬКОРАЎ

✱ **Усераённы чырвоны абоз з ільнова-лакном дзяржаве** арганізуюць у гонар 3-га ўсебеларускага з'езда рабселькораў селькоры Старобінскага раёна. Першымі ўключыліся ў работу члены рэдкалегіі і селькоры насценгазеты калгаса «Першае жніўня», якія здаюць 300 кілограм высокаякаснага валакна.


У дзень выхода 100-га нумара „Кімаўца“
ПАЛКАЕ БОЛЬШЭВІЦКАЕ ПРЫВІТАННЕ
КІМАВЕЦ
№ 100
„Друк—самая моцная, самая вострая зброя партыі“.
(І. В. Сталін)

**Соты юбілейны нумар шматтыражкі «Кімэвец» (Віцебск, трыкатажная фабрыка**

Раённая газета **«Калгаснік Старобіншчы-**

**ны»** з мэтай узмацнення ільнозагатовак пачала выдаваць друкаваны апэратыўны бюлетэнь па ільну.

## 2747 ПІСЬМАЎ ЗА 8 МЕСЯЦАЎ

✱ **Мацнее сувязь калгасных мас з газетай**, павялічваецца колькасць пісем працоўных у сваю раённую і палітаддзельскую газету. За 8 месяцаў рэдакцыяй жлобінскай раённай газеты атрымана 2.787 пісем. З гэтага ліку скарыстана 2.102, паслана на расследаванне 658 і атрыманы адказы на 532 пісьмы. Палітаддзельская газета **«Чырвоны трактарыст»** атрымала за гэты час 960 пісем, з якіх скарыстала 807.

## СВЕТАВАЯ ГАЗЕТА Ў КАЛГАСЕ

✱ **Выпуск светавых газет** пачаўся ў радзе калгасаў Случчыны («Новае жыццё», «Вольная праца», «Шляхі калектывізацыі» і інш.). Для выпуску светавой газеты выкарыстоўваецца кіноапарат і кіноістужка. Жывая карыкатура, узятая з жывых фактаў жыцця калгаса, дзейнічае надзвычай моцна. У дзень выхаду светавой газеты калгасныя клубы перапоўнены. Асобныя бойкія карыкатуры з светавой газеты калгаснікі просяць дэманстраваць па 2 і 3 разы.

## АЛЬБОМ ЛЕПШЫХ РЭДАКТАРОЎ

✱ **У падарунак 3-му ўсебеларускаму з'езду рабселькораў** палітаддзельская газета Капыльскай МТС **«За большэвіцкі калгас»** стварае альбом лепшых рэдактароў насценгазет і селькораў, якія вызначыліся сваёй ударнай работай па арганізацыйнагаспадарчаму ўмацаванню калгасаў.

Альбом будзе ўручан прэзідыуму ўсебеларускага з'езда рабселькораў.

## «КІМАВЕЦ» АДЗНАЧАЕ СВОЙ ЮБІЛЕЙ

✱ **«Кімавец»**—шматтыражка Віцебскай трыкатажнай фабрыкі «КІМ»—адзначае выхад сотага нумара разгортваннем зотаўскага руху на фабрыцы, узмацненнем падрыхтоўкі да 3-га ўсебеларускага з'езда рабселькораў. На фабрыцы праведзена нарада рэдактароў па пытанню падрыхтоўкі да з'езда. Арганізавана ўдарная вытворчая брыгада імя 3-га з'езда рабселькораў. Брыгадзірам вызначан лепшы рабкор—ударнік **Сафроненка.**

У дзень свайго юбілея газета расказала аб вопыце работы выязной рэдакцыі «Кімаўца» ў падшэфным Машканскім сельсовеце, папулярызавала вопыт работы лепшых цэхавых і брыгадных штодзенак, іх рэдактароў, скончыўшых арганізаваныя шматтыражкай курсы рэдактароў цэхавых газет.

## ПРАВЕРЫЦЬ ЯКАСЦЬ НАЛІЧЭННЯ ПРАЦАДЗЁН

✱ **«За большэвіцкія калгасы»**—газета палітаддзела Рагачоўскай МТС—з удзелам селькораў праводзіць рэйд праверкі правільнасці налічэння працадзён. У калгасе «Аганёк» селькораўскі рэйд выявіў недапушчальнае разбазарванне працадзён. Самавольнае зніжэнне норм выпрацоўкі, прыпісванне лішніх дзён сваякам брыгадзіраў стала масавым з'явішчам у калгасе. Рэйд выявіў, што па адной толькі агароднай брыгадзе **перавыдаткавана 650** працадзён.

## СПЕЦЫЯЛІЗАВАНЫЯ ЗЛЁТЫ

✱ **Злёт рабкораў буйнейшых прадпрыемстваў раёна** правяла жлобінская раённая газета **«Шлях соцыялізма».** На злёце прысутнічала 60 рабкораў-дэлегатаў ад 2 лесазаводаў, птушкакамбіната, хлебазавода, торфзавода, цагельні і ад саматужнапрамысловых арцелей.

На працягу кастрычніка склікаюцца спецыялізаваныя рабселькораўскія злёты па пытанню падрыхтоўкі да зімы МТКФ і СТКФ, саўгасаў і прадпрыемстваў.

## АРГАНІЗУЕМ ВУЧОБУ РЭДАКТАРОЎ

✱ **Семінар для рэдактароў агульна-калгасных і брыгадных насценгазет** арганізавала рагачоўская палітаддзельская газета «За большэвіцкія калгасы». Заняткі праводзяцца ў выходныя дні. Вывучэнне рэдактарамі таго ці іншага пытання спалучаецца з практычным разборам на семінары вышаўшых нумароў калгасных насценгазет.

## БУЙНЕЙШАЙ ФАБРЫЦЫ — ТЭХНІЧНУЮ ГАЗЕТУ

✱ **Шматтыражка віцебскай швэйнай фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі»** пачала выпускаць спецыяльную **тэхнічную газету.** Першы нумар газеты прысвечан пытанням тэхналагічнай апрацоўкі прадукцыі і дэкатыроўкі тканін, брыгаднаму тэхпрамфінплану. У газеце змешчаны таксама тэхнік па рабочых прапановах і тэхнічная кансультацыя для гурткоў па тэхмінімуму.

ДА УСЕБЕЛАРУСКАГА З'ЕЗДА РАБСЕЛЬКОРАЎ
ДАЦЬ 2000 ПАДПІСЧЫКАЎ НА „БОЛЬШЭВІЦКІ ДРУК".

# Выклік шматтыражкам лесу і сплаву

У дадатак да раней выпісаных для рэдактароў нізавых газет сямі экзэмпляраў журнала «Большэвіцкі друк» выпісваем яшчэ 6 экземпляраў да канца года для лепшых рабкораў-лесарубаў Равоцькі М., Шчаснай, Аўсіевіча і інш.

Выклікаю паследваць нашаму прыкладу рэдактароў шматтыражак «СОЦЫЯЛІСТЫЧНЫ ЛЕСАСПЛАЎ» — тав. ФЕЙГІНА (Бабруйск) і «РЭЧЫЦКІ ЛЕСАРУБ». —тав. РАШЧЫНСКАГА.

Рэдактар шматтыражкі «Ударнік леса» А. КАЦ.

## ДАЦЬ НЕ МЕНШ ДЗЕСЯЦІ НОВЫХ ПАДПІСЧЫКАЎ НА „БОЛЬШЭВІЦКІ ДРУК"

Уключаюся ў паход за двухтысячны тыраж «Большэвіцкага друку». Да дня адкрыцця ўсебеларускага з'езда рабселькораў абавязваюся завербаваць на журнал не менш дзесяці новых падпісчыкаў з ліку лепшых рэдактароў насценгазет, рабкораў-ударнікаў. Выклікаю рэдактароў палітаддзельскіх газет тт. **Нехамкіна** (палітаддзел Лепельскай МТС), **Івашынэ** (Крупская МТС), **Ханіна** (Аршанская МТС) **Радкевіча** (Дзяржынская МТС).

Рэдактар газеты палітаддзела 1-й Менскай МТС ЧАЎСКІ.

Менск, друкарня «Звязды» Горліт № 5729.

